# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 5 (267) 4 — 10 лютага 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

## "ЁСЦЬ ПРОСТА ПУШКІН..."

*Дзесяты дзень лютага — дата сумназнакамітая, памятная дата ў сусветным маштабе: 160 гадоў таму планета страціла Пушкіна. І другая журботная дата, якую памятае Беларусь — 3 лютага, восем гадоў таму, спынілася сэрца чалавека, які значную частку творчага жыцця аддаў Пушкіну. Дзевяць пластычных кампазіцый, прысвечаных паэту, выйшлі з-пад разца славутага нашага скульптара Анатоля Анікейчыка. Повязь часоў, повязь творцаў праз стагоддзі... Сёння мы раскажам толькі адну гісторыю. Гісторыю, якую дасюль амаль што ніхто не ведае. Яна — пра тое, як ствараласяі скульптурная кампазіцыя "Пушкін і Ванькові́ч".*

*Матэрыял чытайце на стар. 4.*

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# ЗБЯРУЦЦА Ў МІНСКУ ПУШКІНІСТЫ

160-годдзе з дня смерці А.С. Пушкіна будзе адзначана і ў Мінску. З гэтай нагоды 10 лютага ў памяшканні абласной бібліятэкі, якая носіць імя вялікага рускага паэта, пройдзе круглы стол па тэме "Пушкін і Беларусь" з удзелам супрацоўнікаў Санкт-Пецярбургскага Інстытута літаратуры, вядомых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх С.Грахоўскі, В.Іпатава і іншыя, а таксама ўсіх тых, хто цікавіцца творчасцю Пушкіна і знойдзе час наведаць гэтае мерапрыемства. Яго пачатак а 14-ай гадзіне. У той самы дзень у памяшканні Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі адбудзецца імпрэза, прысвечаная гэтай гадавіне.

Плануецца, што названыя мерапрыемствы стануць пачаткам задзіночання аматараў творчасці паэта ў своеасаблівы пушкінскі клуб.

**Наш кар.**



Міжнародны турнір па спартыўным танцы "Віцебская сняжынка-97" прайшоў у Віцебску. У ім прынялі ўдзел танцавальныя пары з Мінска, Віцебска, Гомеля, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Ніжняга Ноўгарада і іншых гарадоў.

*На здымку: фрагмент конкурсных выступленняў.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# ПРЭМ'ЕРА КАНТАТЫ

Напрыканцы студзеня ў зале камернай музыкі (касцёл св. Тройцы) адбылася прэм'ера кантаты для салістаў, хору, аркестра. Назва новага музычнага твора — "Да Маці Божай",напісаў яе добра вядомы кампазітар Аляксандр Літвіноўскі на тэксты з малітоўніка ксяндза Адама Станкевіча. Кантата напісана ў лепшых традыцыях класічнай рытуальнай хрысціянскай музыкі і, несумненна, узбагаціла гэты музычны жанр.

**А.Р.**

# ШКОЛЬНАЯ "БАТЛЕЙКА"



Некалькі гадоў таму ў Салігорскай дзіцячай мастацкай школе быў створаны школьны тэатр "Батлейка". Выкладчык курса беларускай культуры Ніна Казлова падабрала рэпертуар, у які ўвайшлі класічныя батлеечныя спектаклі. За атрыманыя сродкі за ўдзел у конкурсе "Сям'я і школа" тэатр набыў абсталяванне для стварэння музея лялек.

*На здымку: удзельнікі тэатра "Батлейка" Наталля Варабей і Марына Баткаева.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# ПАЛІНДРОМ ЗАВАЁЎВАЕ СВЕТ

27 студзеня ў Маскве прайшла традыцыйная канферэнцыя, прысвечаная памятанням вершазнаўства, якую штогод ладзіць Інстытут сусветнай літаратуры імя А.М.Горкага Расійскай акадэміі навук. Сярод спавешчанняў вылучаўся даклад курскага даследчыка Аляксандра Бубнова "Паліндром і ўстойлівыя формы верша". Увага да паліндрома на самым вышэйшым навуковым узроўні сведчыць пра тое, што эксперыменты ў паэтыцы робяцца ўсё больш "законнымі".

Аляксандр прадстаўляў клуб "АмфіРыфмА" і аднайменнае выданне, якое, фактычна, спецыялізуецца на выданні вершаў, што чытаюцца з розных бакоў.

Аматарам паэзіі будзе цікава даведацца, што даследчык вядзе актыўны тэрміналагічны пошук. Так, ён карыстаецца наступнымі тэрмінамі: Пераверцень (верш з радкоўпаліндромаў), Акраверт (верш з радкоў-паліндромаў, якія складаюць акраверш), Таўтаверт (верш з радкоў-паліндромаў, якія пачынаюцца на адну літару), Манаверт (верш з аднаго паліндрома), Таўтаманаверт (складанне таўта і манаверта, верш з аднаго паліндрома, усе словы якога пачынаюцца з адной літары). Аматары сіметрычнай паэзіі могуць звязацца для абмену матэрыяламі з клубам "АмфіРыфмА", калі напішуць на адрас: 305000 Курск, Г/ІІ, а/я 233 Бубнову А.В.

Адначасова на канферэнцыі была распаўсюджана прапанова па правядзенні агляду-конкурсу "ЗАЛАТЫ РАКАХОД", на якім будзе разглядацца ўсё напісанае ў жанры паліндрома за кожныя тры гады, пачынаючы з 1991 года. Конкурс мяркуецца правесці па розных намінацыях: ад паліндрома-радок — да зборніка паліндромаў (больш за 200 слоў). Ацэньвацца тэксты будуць паводле тэхнічных крытэрыяў (паліндромная дакладнасць, складанасць, семантычная звязнасць тэксту), мастацкіх (раскрыцці тэмы, яркасць вобразаў). Заяўкі трэба дасылаць да 1.05.97. Арганізатары спадзяюцца, што правядзенне конкурсу стане традыцыйным і да канца стагоддзя будуць праведзены яшчэ два (у якіх будуць удзельнічаць тэксты, напісаныя ў 1994 — 1996 і 1997 гадах). Каардынатарам конкурсу выступае Уладзімір Рыбінскі (300036, ТУЛА, а/я 1745).

На гэтую інфармацыю варта звярнуць увагу беларускім паліндрамістам. У нас напрацавана даволі моцная традыцыя паліндромнай (і постпаліндромнай) паэзіі. Хаця б той жа Бум-Бам-Літ ("Рогі Гор" Віктара Жыбуля, транслагічныя эксперыменты Сержа Мінскевіча, Алеся Туровіча). На канферэнцыі гучалі ідэі аб супрацоўніцтве ББЛ з АмфіРыфмАй, правядзенні сумесных праектаў (Беларусь стала дзевятай краінай, якая далучылася да паліндромнага руху).

Калі ў Вас ёсць жаданне далучыцца да паліндромнага інтэрнацыянала, пішыце: Мінск, Чычэрына, 1, "Культура", ББЛ — Паліндром.

**Наш кар.**

# НА "БІС" 35 РАЗОЎ!



"Рыгорка — Ясная Зорка" — апошняя пастаноўка галоўнага рэжысёра Уладзіміра Караткевіча, прысвечаная дзецям. Гэта казка паказана 35 разоў, паглядзелі яе больш за 20 тысяч юных гамяльчан. Гледачамі сталі і выхаванцы дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў, дзеці з малазабяспечаных сямей.

*На здымку: сцэна са спектакля "Рыгорка — Ясная Зорка".*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# ЧАЎНОК—КУЛЬТУРТРЭГЕР

Калі вы бачыце чалавека з вялікімі валізкамі, які спяшаецца на цягнік або самалёт, гэта не абавязкова "чаўнок", што зарабляе на хлеб перапродажам. Гэта можа быць прадстаўнік нядаўна народжанай сацыяльнай групы, якая горда сябе называе "культуртрэгерамі". З падзеямі апошніх гадоў разарваны не толькі эканамічныя сувязі, што спарадзіла прыватную ініцыятыву ў выглядзе спекуляцыі, але, што больш важна і небяспечна, парушыліся кантакты паміж мастакамі, навукоўцамі, пісьменнікамі, выкладчыкамі... Мы часта не ведаем, што адбываецца ў суседнім квартале, не кажучы пра горад, краіну. Вырашыць гэтую праблему бяруцца людзі, якія выбіраюць сваім хобі ці прафесіяй распаўсюджанне друкаванай інфармацыі — кнігі, часопісы, газеты, праграмы канферэнцый і інш. Яны спяшаюцца ў розныя краіны і гарады на свае "кірмашы", канферэнцыі, дзе бясплатна абменьваюцца друкаванай прадукцыяй і проста звесткамі. Доктар філалагічных навук Юрый Арліцкі ў гэтую катэгорыю трапіў выпадкова. Ён проста запісваў асноўныя канферэнцыі, пра якія даведваўся з розных крыніц. Даведнік усё пашыраўся... пакуль не стаў

### "ВЕСТНИКОМ ГУМАНИТАРНОЙ НАУКИ".

Яго я зараз трымаю ў руках. Дэвіз выдання — "Хто валодае інфармацыяй, валодае светам". У 31-м нумары (пятым за 1996 год) прадстаўлены розныя блокі інфармацыі: хроніка канферэнцый па гісторыі, культуралогіі, лінгвістыцы, краязнаўстве, мастацтвазнаўстве, фемінологіі, эканоміцы, тэалогіі і літаратуразнаўстве. Даецца спіс канферэнцый 1996—1998 гадоў, рэцэнзіі на новыя кнігі, якія выйшлі ў Маскве, Іванаве, Варонежы, Ноўгарадзе, Пскове, Стаўрапалі... Важна тое, што тут падаецца не проста інфармацыя, але і тэлефоны каардынатараў тых ці іншых праектаў. Часта тут друкуюцца і найбольш цікавыя даклады. Са старонак часопіса можна атрымаць і інфармацыю пра гранты. Цікава тое, што матэрыялы друкуюцца і на мовах краін, адкуль яны атрыманы. Так, з нямецкай і французскай мовамі суседнічае беларуская. У кожным нумары прадстаўляецца "візітная картка" навуковай ці навучальнай установы. Герой апошняга — Тамбоўская лінгвістычная школа. Шырока прадстаўлены ў зборніку і падзеі на Беларусі, бо выданне актыўна супрацоўнічае з мальдзісаўскімі "Кантактамі і дыялогамі".

### БЫВАЕ ДАСТАТКОВА НАЗВЫ

"Веснік створаны не толькі дзеля наладжвання сувязяў паміж вучонымі розных краін, — распавядае Юрый Арліцкі, — але і для міждысцыплінарных кантактаў. Пра гэта сведчыць і сама назва — Веснік гуманітарнай навукі, падкрэсліваю, адзінай навукі. Самае важнае зараз адбываецца менавіта на стыку навук. Мне самому звышцікава чытаць, што зараз адбываецца ў гісторыкаў, лінгвістаў. Да нас прыходзяць карэспандэнцыі з Аўстраліі, Новай Зеландыі, Францыі, Германіі. Мы імкнемся друкаваць справаздачы канферэнцый са зменамі, якія адбыліся падчас іх правядзення. Проста прачытанне назваў дакладаў мае вялікае значэнне: па-першае, каб навукоўцу не паўтараць ужо пройдзенае, а па-другое, для таго, каб можна было завязаць кантакты". З сярэдзіны мінулага года "Вестник..." выходзіць у Інтэрнэце. Пакуль "камп'ютэрны" варыянт цалкам дублюе "папяровы", але ў ідэале галоўны рэдактар бачыць інфармацыю ў Інтэрнэце пастаянна абнаўляемай, каб карыстальнік мог атрымаць яе літаральна праз некалькі секунд пасля таго, як яна трапіла ў часопіс.

Значэнне весніка асабліва важнае, бо цяжка прыгадаць аналаг такому выданню. Быццам бы і павінны быць цэнтры ў бібліятэках, ВНУ, інстытутах, якія абавязаны распаўсюджваць такую інфармацыю. Але той, хто дакрануўся да працы ў гэтай галіне, ведае, наколькі гэта няўдзячная справа. Вядомыя цэнтры, якія займаюцца падобнай дзейнасцю, можна пералічыць па пальцах. Так, у Пецярбургу выходзіць даведнік па мове, літаратуры, гісторыі культуры (абрэвіятура — "ЯЛИК"), які каардынуе прафесар Герд, у Мінску — "Кантакты і дыялогі", у Маскве Расійская акадэмія навук выдае газету "Поиск". З імі "Вестник..." і падтрымлівае кантакты. Але галоўная крыніца інфармацыі — гэта жывыя кантакты паміж людзьмі, абмен рознымі тэкстамі на прыватным узроўні.

Я параўнаў гэтую дзейнасць з работай "чаўнака". Але Юрый Арліцкі не пакрыўдзіўся: "Як без чаўнака мы плацілі б за тыя ж тавары значна большыя грошы, так і без прыватных "інфарматараў" было б значна цяжэй. Хаця, падкрэслю, "Вестник..." — дзяржаўнае выданне пры Расійскім дзяржаўным гуманітарным універсітэце".

Калі вы маеце інфармацыю, якую варта было б распаўсюдзіць у Расіі, то перадаем каардынаты:

"Вестник гуманитарной науки", Издательский центр Российского государственного гуманитарного университета, 125267 Москва, Миусская пл., 6, тел.: 250-69-87.

**Алесь ТУРОВІЧ**

# "ПАДАЮЦЬ СНЯЖЫНКІ..."

Так называўся творчы вечар Ігара Лучанка, што адбыўся ў сталічным Доме літаратара 31 студзеня. Увазе прыхільнікаў таленту знакамітага кампазітара быў прапанаваны вянок беларускіх песень у выкананні Івана Краснадубскага, Аляксандра Ціхановіча, Ядвігі Паплаўскай і інш. У праграме вечара таксама бралі ўдзел ансамбль песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь (кіраўнік У.Ермалаеў) і дзіцячы ансамбль "Званочкі" (кіраўнік В.Сярых). Шмат гадоў працуючы ў жанры песні, Ігар Лучанок засведчыў яшчэ раз глыбінную знітаванасць з родным беларускім словам: на вечары прагучалі песні на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Паўлюка Труса, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова і іншых беларускіх паэтаў.

**А.Р.**

## БІЗНЕС І КУЛЬТУРА

# З ДРУКАВАНЫМ РАДКОМ — У КРАМУ, АБО НОВАЯ "ПРАФЕСІЯ" ГАЗЕТЫ



***Сёння беларускія постмадэрністы распрацоўваюць метады друкавання тэкстаў на бяросце, снезе, аблачынках, камянях. А між іншым у нас ёсць фірма "ТОРКОМ", дзе ўжо пачалі выдаваць газету на поліэтыленавых пакетах і хутка збіраюцца зрабіць на поліэтылене першую кнігу-скрутак. Гэта пры тым, што сабекошт незвычайнай друкаванай прадукцыі нашмат танней за зробленую з паперы. Значыць, можна сцвярджаць, што зараз у свеце наша краіна самая развітая ў галіне ажыццяўлення новых постмадэрновых праектаў. Наш спецыяльны карэспандэнт Зміцер ВОЛКАЎ сустрэўся з намеснікам галоўнага рэдактара газеты-пакета "Мяшок УСЯлякай УСЯчыны" Максімам СТАРАДЗІНАВЫМ і ўзяў у яго інтэрв'ю.***

— Наша фірма існуе тры гады. Мы ў асноўным супрацоўнічаем з замежнымі партнёрамі — В'етнамам, Камбоджай, Лаосам. Наш тавар — розныя ўпаковачныя матэрыялы, газета, кнігі, сукенка Барбі.

**— Чаму вы супрацоўнічаеце менавіта з гэтым рэгіёнам?**

— Так атрымалася, што наш генеральны дырэктар там не аднаразова знаходзіўся і працаваў. Адсюль і цудоўнае паразуменне. Гэты рэгіён разгортвае для Беларусі вялікія перспектывы, бо мае танную рабочую сілу.

**— Каму прыйшла ідэя выдаваць газету на пакетах?**

— Усе нашы ідэі сыплюцца ад нашага генеральнага дырэктара Аляксандра Казлова.

Газета на пакетах нясе падвойную функцыю: па-першае — яна можа быць як газета, па-другое, як пакет, які можа вытрымаць 10 кілаграмаў.

**— Я думаю, з гэткімі грандыёзнымі ідэямі вы адчуваеце надзвычайныя перспектывы...**

— Хочацца ахапіць гэтай газетай увесь свет. Сённяшні дваццацімільённы наклад, я думаю, задаволіць патрэбы ўсёй прасторы Расіі і Беларусі. У далейшым мы думаем выдаваць пакеты на англійскай і нямецкай мовах.

**— Яшчэ вы выпускаеце цацачную сукенку Барбі...**

— Так, гэтую прадукцыю мы таксама вырабляем у Паўднёва-Усходняй Азіі. Фактычна ажыццяўленню нашых праектаў садзейнічае наяўнасць — таннай рабочай сілы. Скажам так, вось гэткая сімпатычная сукенка ў нас будзе каштаваць усяго 12 даляраў. Гэта ўжо аформлены падарунак — падарачны набор. Хаця тая ж сукенка Барбі ў іншых вытворцаў каштуе нашмат болей.

Акрамя ўсяго вышэйназванага мы яшчэ займаемся пальчаткамі. Дакладней яны называюцца — рабочыя рукавіцы і прызначаюцца для нафтавікоў і людзей іншых прафесій, якія працуюць на холадзе. Карацей кажучы, для паўночных рэгіёнаў. Рукавіцы прапітваюцца латэксам. Прадугледжаны электранагрэў. Аналагаў вырабам такой якасці ў Беларусі і ў Расіі пакуль няма. У Расіі ёсць адзін завод, які выпускае падобную падукцыю — горшай якасці. Але прапануўваюць рукавіцы яны прыблізна па гэтkіх жа коштах, як і мы.

**— Першыя два нумары газеты вы прысвяцілі анекдотам. У вас ёсць свае збіральнікі народных скарбаў?**

— Свае збіральнікі ёсць, але спачатку газета рабілася даволі спантанна з выпадковага, тым не менш цікавага матэрыялу. Зараз мы супрацоўнічаем з прафесійнымі журналістамі, якія рыхтуюць тэксты для будучых нумароў. Да гэтай справы далучылася нават мая жонка, яна раней ужо друкавалася ў розных буйных выданнях.

**— А ці плануеце вы выпускаць экзатычныя пакеты? Напрыклад, у выглядзе кветкі, кракадзіла, машыны, аблачынкі, сонца...**

— Гэта цікавая ідэя, але яна — справа будучыні. Фабрыкі замежных партнёраў да падобнага эксперыментатарства проста не падрыхтаваныя.

**— Я так разумею, што мяшкі будуць тэматычнымі — прысвечанымі адной рубрыцы...**

— У нас распрацавана каля трыццаці такіх рубрык — пра палітыку, эканоміку, турызм, кухню, кіно-відэа, дзяцей, дачнікаў, аўтаматараў, паэтаў, мастакоў, музыкаў і шмат-шмат іншае. Плануем правядзенні конкурсаў паміж паэтамі, карыкатурыстамі, аматарамі анекдотаў. Кожная рубрыка плануецца накладам ад 100 тысяч да 1 мільёна. Гэта пры тым, што агульны наклад газеты — самы рэкордны ў свеце.

**— Вы збіраецеся выпускаць іншую друкаваную прадукцыю?**

— Мы распачынаем серыю з кніг, аддрукаваных на поліэтылене, поліпрапілене.

**— Колькі яны будуць мець старонак?**

— Я думаю, што ў адной такой кнізе магчыма размясціць цалкам нават раман Льва Талстога "Вайна і мір". Яна нечым будзе падобная да старажытных скруткаў, але мадэрнізаваная. Можна будзе задаваць пэўную колькасць часу на прачытку старонкі — прадугледжана аўтаматычная перакрутка. Гэта атрымаецца кніга, падобная да бабіны. Націснуў кнопку — знайшоў патрэбную старонку.

У прынцыпе мы лічым, што гэтыя ідэі зробяць у выдавецкай дзейнасці рэвалюцыю.

**— Што вы плануеце выдаваць? Гэта будуць толькі мастацкія тэксты?**

— Мы наладзім выпуск добрай літаратуры — пачынаючы ад класікі і заканчваючы чым заўгодна... Галоўнае — чытацкі попыт на гэткі тавар.

**— Якая краіна будзе выдаўцом першай кнігі-скрутка?**

— В'етнам. Фактычна мы маем манаполію на друкаванне газет і кніг на поліэтылене.

* * *

*Такім чынам, нас усіх чакае нешта надзвычай новае. Гэта добра. Тэхнічны прагрэс ляціць наперад. Кнігадрукаванне і газетадрукаванне атрымлівае свежы подых. Хочацца верыць, што на гэтым смелыя крокі наватараў не спыняцца. Быць можа,хутка ў крамах і шапіках з'явяцца не толькі пакеты-газеты, але і боты-вершаваныя зборнікі, капелюшы-фельетоны, печыва-вершы. Карацей кажучы, друкаваць тэксты ў прынцыпе можна дзе заўгодна і на чым заўгодна. Тады жыць нам будзе весялей і цікавей. Вакол атрымаецца нашмат болей культуры і каляровасці. І на рагах усіх вуліц і слупах мы напішам: "Беларусь — самая чытаючая краіна ў свеце!".*

*(У афармленні матэрыялу скарыстаны малюнкі з газеты "Мяшок УСЯкай УСЯчыны".)*





# ПА ВУЛІЦАХ БРЭМЕНА З ЦЫМБАЛАМІ, ГІТАРАЙ І ТРУБОЙ

Піяніна не ўвайшло ў назоў толькі таму, што яго нязручна насіць з сабою і правозіць праз межы. Катрынкі і вышэй пералічаныя інструменты на вуліцах брэменскага цэнтра шырока прадстаўлены. Ёсць акардэоны і гармонікі. Вулічныя музыканты і ў Мінску даўно ўжо не рэдкасць. А тут гэта звыклая справа ўжо добрых дзвесце гадоў. Нязвыклае ў тым, што многія з іх з былога СССР. Тут я сустрэў і сваіх землякоў-беларусаў. "Касіў Ясь канюшыну..." — Божа мой, дык гэта ж нашы! Два хлопцы з Гродна. Як, што, калі, колькі? "Нашых у Нямеччыне бездань, — сказалі хлопцы. — Толькі не пытайцеся прозвішчы і дзе працуем на Беларусі". Дзень патрацілі на гэтыя сустрэчы, пагутарылі, выпілі піва. І вось што высветлілася. Спяваюць, іграюць усе вельмі прафесійна. Многія з "вулічных" — працуюць у вядомых і вельмі вядомых у нас калектывах. Сюды едуць не паглядзець і адпачыць, а зарабіць. "Ты ж ведаеш, як у нас з культурай і "культурнай" зарплатай. Трэба круціцца..." Амаль ва ўсіх легальнае становішча, часцей — турыстычныя візы, радзей — запрашэнні сяброў, сваякоў. Едуць, зазвычай, невялікімі групамі па тры-чатыры чалавекі, праграмы рыхтуюць загадзя, у асноўным народны рэпертуар і... (гэта ісцотна!) нацыянальныя строі, нешта з нацыянальнай атрыбутыкі (кераміка, лялькі, сцяг, саламяны самавар і г.д.) — чым больш экзатычна, тым лепей. Магчыма і так: нехта іграе, нехта скача (мадэль — міні-"Харошкі").

Добра, калі ёсць машына: на адным месцы нельга доўга заседжвацца — лад жыцця вандроўны. Мае першыя два знаёмцы праехалі па "крузе": Брэмен — Гамбург — Гановер — Дортмунд — Кёльн — Брэмен. Машына добрая яшчэ і тым, што ў ёй можна пераначаваць. Кватэры каштуюць дорага. Добрыя знаёмцы і нават сябры з Беларусі, якія пераехалі на пастаяннае месца жыхарства ў Нямеччыну, не вельмі ахвочыя на блізкія стасункі з землякамі, што прыехалі на заробкі. Нават наадварот: за аднапакаёвую кватэру ў ваколіцах Брэмена, у Остлендхаўзене (аналаг мінскага Паўднёвага Заходу) патрабуюць з землякоў, сяброў і таварышаў па 600-700 марак (кошт сярэдняй лядоўні альбо вельмі някепскага тэлевізара). Ехаць лепей за ўсё напярэдадні святаў, асабліва перад Калядамі. Сезон — лістападснежань. Працоўны тур працягваецца 2-3 месяцы.

А цяпер колькі словаў пра галоўнае: едуць, як я ўжо казаў (маркую, што чытач і сам гэта ведае), не адпачываць і весяліцца. Праца без адпачынку, іграць і спяваць — 4-5 гадзін на дзень. На месяц — у сярэднім 1500-2000 марак. Дробязь, якую кідаюць у "капялюш", потым мяняюць у ашчадных касах на паперкі. Колькі кідаюць? Зазвычай, 1-2 маркі. Радзей — 5. Але здараецца, ад "новых рускіх" (беларусаў, украінцаў, габрэяў) перападзе і 10, і 20 марак. Аднойчы кліент замовіў "нашым" усё, што яны ведаюць пра Адэсу. За кожную песню плаціў. У выніку атрымалася марак 100. Але такое здараецца рэдка. І яшчэ: нідзе ў Еўропе не плацяць лепей за Нямеччыну. Французы скваліныя, "бенілюксаўцы" — абыякавыя, у італьянцаў сваіх "брэменскіх" музыкантаў хапае. А немцы, як ні дзіўна гэта падасца, вельмі шануюць нашыя народныя песні (і... песні часоў вайны!). Неўміручыя "Падмаскоўныя вечары" і "Кацюша" — як заклік: значыць, тут музыканты з Русляндa. Няважна з "Юкрайны" альбо з "Вайсруслянда" — ты ўсё роўна з Расіі.

— Як вас з інструментамі і касцюмамі праз мытні прапускаюць?

— Вельмі нават добразычліва: мы ж едзем рабіць "свята і сяброўства", а не рабаваць і ашукваць. Гэта разумеюць нават паліцэйскія ў гарадах. Рэдка правяраюць наяўнасць візы.

— А мясцовыя вулічныя музыканты?

— Яны якраз і падказваюць, дзе стаць, каб болей зарабіць.

Калі я адыходзіў з плошчы двух сабораў (гэта я яе так для сябе назваў), услед неслася песня: "Ой, у полі два дубкі!"

Мелодыі маёй зямлі пераследвалі мяне ў той дзень да вечара, а ўначы снілася, што я п'ю піва ў бары мінскага піўзавода ў кампаніі блізка знаёмых журналістаў...

**Навум ЦЫПІС,**
**уласны карэспандэнт "Культуры" ў Германіі.**

## ФОТАФАКТ



*"Что наша жизнь? Игра!"*
**Фотаэцюд Генадзя ЖЫНКОВА**

ЧАС. АСОБА. ЛЁС.

# "ЁСЦЬ ПРОСТА ПУШКІН..."



*Анатоль Анікейчык.*

"Стала модным гаварыць, што ў кожнага, маўляў, "свой" Пушкін, — разважаў калісьці Анатоль Анікейчык. — На маю думку, гэта няправільна. Ёсць проста Пушкін. І да яго падняцца трэба. Мы ўсё гаварылі: свой Купала, свой Чэхаў, свой Ясенін... Не трэба іх да сябе апускаць. Да святых рэчаў трэба ставіцца больш строга..."

Слухаючы тады Анікейчыка, гледзячы на ягоны пушкінскі цыкл, я думаў: які ж той адзіны Пушкін, да якога падняўся гэты скульптар?

"Калі я прыступіў да Пушкініяны, тэму вызначыў наступным чынам: Пушкін і Беларусь. На першы погляд, тэма надуманая, таму што на Беларусі паэт быў у 1820 і 1824 годзе толькі праездам. Для серы работ гэтага недастаткова. Прыйшлося шукаць іншыя, духоўныя сувязі", — разважаў Анікейчык.

Цікавая гісторыя стварэння Анікейчыкам апошняй кампазіцыі "Пушкін і Ваньковіч". Гісторыя, якую амаль што да сённяшняга дня ніхто не ведае.

У 1886 годзе старэйшы сын А.С.Пушкіна Аляксандр перадаў у бібліятэку Маскоўскага Румянцаўскага музея партрэт свайго бацькі. На малюнку, выкананым італьянскім алоўкам, паэт сядзеў на краі вадаёма-фантана: свабодная, натуральная поза, Пушкін — у расшпіленым сюртуку, камізэльцы, на каленях у яго — капялюш. Малюнак паступіў у музей як... аўтапартрэт паэта. Аднак, калі па прашэсці некалькіх дзесяцігоддзяў акантаваны партрэт ускрылі, на другім баку яго выявіўся надпіс: "Ваньковичъ". Цяпер гэты пушкінскі партрэт знаходзіцца ў зборы Пецярбургскага музея А.С.Пушкіна.

Даведаўшыся пра гэтую гісторыю, Анікейчык зацікавіўся абставінамі, пры якіх з'явіўся партрэт. І вось што высветлілася.

У 1824 годзе ў Пецярбург прыехаў беларус, студэнт Віленскага універсітэта Валянцін Мельхіёравіч Ваньковіч. Ён быў дапушчаны да наведвання класаў Акадэміі мастацтваў, вучыўся ў Аляксандра Іванава, за студэнцкія работы ўзнагароджваўся медалямі. Пазней, у 1832 годзе, Ваньковіч атрымаў званне майстра "партрэтнага жывапісу".

У 1827 у Пецярбург упершыню прыехаў доктар з Вільні Станіслаў Мароўскі — яму, дарэчы, мы абавязаны некаторымі звесткамі пра гісторыю стварэння партрэта Пушкіна віленскім студэнтам. Пасяліўшыся ў Пецярбургу, Мароўскі зблізіўся з мастакамі, у тым ліку і з Ваньковічам. У сваіх успамінах Мароўскі расказвае, напрыклад, пра наведанне майстэрні мастака, дзе ён убачыў "вялікі, у рост", напісаны алеем партрэт Пушкіна, скампанаваны "ў рамантычным гусце": пад цяністым дрэвам "паэт — стаіць у роздуме".



*А.С.Пушкін і В.М.Ваньковіч.*

А вось што піша 19 сакавіка 1828 года дачка вядомай піяністкі Марыі Шыманоўскай — Алена (потым — жонка блізкага сябра Адама Міцкевіча): "Перад поўднем пан Малеўскі, пан Вяземскі і пан Пушкін прыйшлі да нас. Пан Пушкін прынёс альбом, у якім ён зрабіў запіс. Разам з гэтымі панамі мы паехалі на Васільеўскі востраў, дзе жыве мастак Ваньковіч. Там мы бачылі партрэты Міцкевіча і Пушкіна, якія ён зрабіў для выставы ў Варшаве".

На жаль, партрэт Пушкіна алеем, "вялікі, у рост", да нашых дзён не дайшоў. Тым большую каштоўнасць уяўляе сабой датаваны 1827—1828 гадамі алоўкавы малюнак Ваньковіча са збору музея, малюнак, які з'яўляецца першапачатковым эскізам страчанага партрэта паэта.

Гэтая гісторыя і стала для Анікейчыка непасрэдным штуршком да стварэння кампазіцыі "Пушкін і Ваньковіч". Ён гэтак і зрабіў, як у малюнку Ваньковіча, той самы вадаём-фантан. А ля яго — паэт і мастак...

Анатоль Аляксандравіч марыў, пры адпаведным павеліччэнні гэтай цудоўнай кампазіцыі, паставіць яе ў якасці помніка ля Дома-музея В.Ваньковіча ў Мінску. Мара так і не ажыццявілася. Вельмі шкада...

**Барыс КРЭПАК**

# АЛЯКСАНДР, СЫН АЛЯКСАНДРА...

Наведаўшы некалькі гадоў таму сталіцу Грузіі, я ў першы ж дзень накіравалася на пошукі апісаных А.С.Пушкіным "славных тбилисских бань". Мне, аматару экскурсій і вандровак, надзвычай пашанцавала. Сціплая жанчына на маё пытанне адказала: "Вас цікавіць Пушкін?.. Мая мама выхоўвалася ў сям'і сына Пушкіна". Не паспеўшы апамятацца ад незвычайнага адказу, праз каторы час была ў вялікім пакоі з белым раялем і старадаўняй англійскаю мэбляю. З партрэта на сцяне на мяне ласкава глядзела гордая (відаць, таму падалася маладзейшай) сівая грузінка.



Пра дзіўны лёс гэтай шчаслівa адоранай жанчыны мне распавяла яе дачка — мая выпадковая знаёмая, настаўніца хіміі адной са школ Тбілісі Мзія Міхайлаўна Сідамон-Эрыставі.

Марыі было восем гадоў, калі па даручэнні Аляксандра Аляксандравіча Пушкіна яго ад'ютант прывёз дзяўчынку з Тбілісі ў Маскву. Бацька Марыі паходзіў з роду міністра цара Іраклія II і браў удзел у перамовах з Расіяй аб заключэнні Георгіеўскага трактата 1783 года. Гаўрыіл Леанідзе служыў разам са старэйшым сынам Аляксандра Сяргеевіча і быў з ім у прыяцельскіх стасунках. Пасля смерці Г.Леанідзе клопатамі Аляксандра Аляксандравіча Марыя была ўладкавана ў вучылішча ордэна Святой Кацярыны (Кацярынінскі інстытут). Жыла ў інстытуце, але святы і канікулы праводзіла ў сям'і Пушкіных, сябравала і разам вучылася з Танечкай Быковай, унучкай Аляксандра Аляксандравіча, праўнучкай вялікага паэта. Дзяўчынкі любога ўзросту ва ўсе часы дзяўчынкі. І калі Таня хвалявалася, каб тканіна на новы туалет была самай прыгожай, заўсёды чула: "Такую самую трэба і Марыі". Дзеці часта звярталіся адна да адной з імгненна складзенымі вершамі — вершаванымі імправізацыямі. Гэта было любімым заняткам.

Марыя бліскуча вучылася, была здольнай і таленавітай. У яе было прыгожае і гучнае кантральта, а з ігрой на фартэпіяна адзін час звязвалі яе будучыню. Аднойчы ў інстытуце адбылося беспрэцэдэнтны выпадак. Выхаванкі гарэлі жаданнем паслухаць знакамітага Л.Собінава, які вярнуўся з італьянскіх гастроляў, але ім не дазволілі. Тады з'явіліся плакаты з лозунгам часоў імператара Аўгуста "Хлеба і відовішчаў!" Марыю Леанідзе выклікалі да інспектрысы: "Ты разумная і павінна паўплываць на іншых". "Скажыце адзін раз, што я неразумная, але дазвольце". Пройдуць гады і да састарэлай інспектрысы, якая жыла ў Арджанікідзе, прыедуць Тацяна Міхайлаўна Галіна (Быкова) з сынам і Марыя Гаўрылаўна Леанідзе з дачкою і зноў успомняць той далёкі выпадак.

Я трымала ў руках цудоўны здымак генерала Аляксандра Аляксандравіча Пушкіна ў парадным строі з надпісам унізе: "Марыі Гаўрылаўне на добры ўспамін. А.Пушкін". І яшчэ адзін асабісты подпіс А.А.Пушкіна ўбачыла я — на атэстаце выхаванкі вучылішча ордэна Святой Кацярыны ў графе супраць слоў "член савета".

Трэба сказаць, што А.А.Пушкін быў прафесійным ваенным і, выйшаўшы ў 1895 годзе ў адстаўку, ён стаў ганаровым членам апякунскага савета, у загадванні якога быў шэраг буйных навучальных устаноў Масквы, у тым ліку Кацярынінскі жаночы інстытут, а ў 1908—1912 гг. быў старшынёй гэтага савета.





А як жа склаўся далейшы лёс Марыі Гаўрылаўны?

У 1912 годзе яна стала выпускніцай другога выпуску інстытута, а потым яшчэ два гады вучылася на курсах замежных моў і атрымала права на выкладанне. Настаў доўгачаканы час вяртання дадому. З Тбілісі Марыя паехала ў Кахецію да сваякоў бацькі. Але там высветлілася: дасканала валодаючы рускай, французскай і нямецкай мовамі, яна амаль не ведала роднай. Усоды яе суправаджалі перакладчыкі. Гэта вельмі засмуціла Марыю, і яна вярнулася ў Тбілісі, даўшы слова, пакуль не адновіць веданне грузінскай, не з'яўляцца ў сваякоў. Дадам, што Марыя Гаўрылаўна пазней дасканала валодала грузінскай, армянскай і азербайджанскай мовамі, разам з унукам вывучыла англійскую.

У 1914 годзе яна ўладкоўваецца выкладчыкам замежных моў у камерцыйнае вучылішча, выкладае ў духоўнай семінарыі ў Тбілісі. Адзначу, што да гэтага часу сям'я была даведзена да галечы.

М.Г.Леанідзе ў 1925 годзе закончыла курсы стэнаграфіі і была запрошана на працу ў Саўнаркам, дзе абслугоўвала ўсе пасяджэнні.

У 1937 годзе, адчуўшы небяспеку, Марыя Гаўрылаўна на парадзе шафёра Берыі звярнулася да яго самога з просьбаю паклапаціцца за маці і дачку. "Ідзі і працуй", — быў адказ.

Пазней перайшла працаваць у міністэрства лёгкай прамысловасці, дзе ўзначальвала агульны аддзел і адначасова вяла курсы стэнаграфіі. Менавіта тады ёй прапанавалі распрацаваць сістэму грузінскай стэнаграфіі, а ў 1946 годзе быў падрыхтаваны падручнік, у рэцэнзіі на які аўтар адзінай дзяржаўнай сістэмы стэнаграфіі Н.Н.Сакалоў адзначыў: "Лічу, што работа М.Г.Леанідзе, з якою яна выдатна справілася, можа быць прадстаўлена на атрыманне вучонай ступені па філалагічных навуках". Падручнік Леанідзе выдаваўся двойчы (1966, 1982), працягвалася праца над другою часткаю, дзе сааўтарамі былі яе дачка Мзія і Этэры Давідаўна Баграціёні. Пра М.Г.Леанідзе грузінская энцыклапедыя паведамляе: "... Першай распрацавала навуковую аснову грузінскай стэнаграфіі. Педагог, тэарэтык і практык-стэнограф, заснавальнік грузінскай стэнаграфіі..."

Пры сваім мужчынскага складу розуме, што адзначаюць ведаўшыя яе, Марыя Гаўрылаўна была сардэчнай і жаноцкай. Дапамагаць усім — блізкім, знаёмым і незнаёмым — было для яе правілам. Калі ўжо не працавала, то штодня збірала ў сябе суседак-пенсіянерак — "клуб вясёлых старых". Ім было што ўспомніць, пра што расказаць...

А Танечка Быкова? Нагадаю, яе маці была ўнучка паэта Марыя Аляксандраўна Пушкіна, бацькам — пляменнік Мікалая Васільевіча Гогаля Мікалай Уладзіміравіч Гогаль. Доўгі час жыла ў Палтаве на радзіме бацькі, потым пераехала ў Маскву, дзе па просьбе вядомага пушкініста Т.Цяўлоўскай збірала і сістэматызавала матэрыялы пра маладое пакаленне патомкаў Пушкіна. У 1969 годзе сумесна з сынам Георгіем Аляксандравічам Галіным у зборніку "Литература и ты" надрукавала нарыс "Лёс патомкаў" — выключна цікавы, як і ўсё, што сёння мае адносіны да любімага паэта мільёнаў, — Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

У мяне было шмат прычын быць вельмі ўдзячнай Мзіі Міхайлаўне. Адна з іх — сустрэча з праправнукам А.С.Пушкіна Георгіем Аляксандравічам Галіным у Маскве. Я была шчаслівай знаходзіцца ў пакоі, дзе адна сцяна амаль уся была ў партрэтах і здымках сям'і Пушкіных, а другая, насупраць, — Гогаля.

**Лідзія ЛІПЕЦКАЯ**

г. Гродна

*На ілюстрацыях:*
*Аляксандр Аляксандравіч Пушкін. Т.Райт, 1844.*
*Чарніліца, нож для паперы, візітоўка на працоўным стале А.С.Пушкіна.*
*Дзеці А.С.Пушкіна. Н.І.Фрызенгоф, 1841.*

МАСТЫХІН



# “КРЫМСКІ ВАЛ” ВІТАЕ БЕЛАРУСАЎ





ім павінна быць святло і прыгажосць, незвычайнасць і яскравасць. Я хачу, каб яно было выратавальным для чалавека, які апынуўся на змрочным баку жыцця...”

**Генадзь Буралкін:** “Сваё творчае жыццё я пачынаў як мастак-манументаліст — з помнікаў і вялікіх прасторавых кампазіцый у Салігорску, Гродне, Лідзе. Але з канца 70-х стаў актыўна працаваць і ў станковай скульптуры — у камені, дрэве, метале. Люблю экспрэсіўную эмацыянальную лепку, выразную дэкаратыўнасць, свабодную пластычную форму. Мая мэта — па-



**У Цэнтральным Доме мастака ў Маскве, што на Крымскім вале, экспануецца выстава жывапісу заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Уладзіміра Тоўсціка, а таксама скульптуры і графікі Генадзя Буралкіна.**

**Уладзімір Тоўсцік:** “У маіх працах заўсёды ёсць пэўныя акцэнты — не толькі кампазіцыйныя, вобразна-пластычныя, а і сэнсавыя. Яны для мяне больш значныя: гэтыя акцэнты выпакутаваныя маім жыццём, маім вопытам. Тым больш, што ў працах я не толькі іду за традыцыяй, але яшчэ і трансфармую яе праз сваё “я”. Як магу і разумею, канешне. Маё мастацтва павінна быць узнёслым. Я так адчуваю. У бачыць у мінулым — сучаснае, у вокамгненным — вечнае, у стыхіі прыроды — чалавечы дух. Словам, імкнуся выявіць тое, што мяне хвалюе, узрушвае, і адлюстраваць так, як падказвае ўнутраны голас.

А ў малюнку люблю рамантычны палёт, музыку штрыха, “недагаворанасць” лініі і ў той жа час — выразнасць і дакладнасць думкі. Гэта нібы спыненае імгненне...”

*На здымках:*
*На вернісажы Г.Буралкіна і У.Тоўсціка ў Маскве, студзень 1997 г.*
*Г.Буралкін. “Ню”. Туш, пяро.*
*У.Тоўсцік. “Мелодыя ночы, што адыходзіць”. Палатно, алей.*

# БЕЗ СПАКУСЫ ЛЁГКАГА ПОСПЕХУ

21 студзеня расійскаму мастаку з Масквы, ураджэнцу Беларусі, Сяргею Палякову споўнілася 40 гадоў. Не ведаю, выпадкова або не, але ягоная першая персанальная выстава на радзіме адкрылася менавіта напярэдадні гэтага юбілею. Вернісаж выставы, наладжаный Нацыянальным мастацкім музеем, маскоўскай галерэяй Вольгі Хлебнікавай і холдзінгам “Дзелавая Масква”, прайшоў святочна і ўрачыста. Так ужо атрымалася, што нашага земляка, які пакінуў родны Гомель у 12-гадовым узросце, Сяргея Палякова, у Маскве і Нью-Ёрку ведаюць больш, чым на Беларусі. І вось, нарэшце, сустрэча адбылася. І не толькі з аўтарам, але і з ягонымі жывапіснымі карцінамі, насычанымі першасным духам славянскага паганства.

На прэс-канферэнцыі перад вернісажам я паставіў перад Сяргеем пытанне: кім ён сёння адчувае сябе больш — беларусам альбо расейцам? Пытанне падалося яму дзіўным, але потым, паразважаўшы, ён адказаў: я — славянін...

У Маскве Палякоў прайшоў розныя этапы прафесійнага навучання: мастацкая школа, мастацкая вучэльня Памяці 1905 года, некаторы час наведваў Строганаўку; як і шматлікія ягоныя равеснікі, захапляўся рознымі “ізмамі”, а потым паступіў у Мастацкі інстытут імя В.Сурыкава, у майстэрню партрэта Іллі Глазунова. Шлях у вялікае мастацтва пачаў з дыпломнай працы “Старажытнае паганскае свята”, прысвечанай веснавому сонцазвароту. Аднак хутка адышоў ад уплыву Васняцова, Урубеля, Рэрыха, Несцерава і нават ад свайго настаўніка — Глазунова, хаця Ілля Сяргеевіч даў яму моцныя асновы класічнай рускай школы жывапісу. А для гэтага Сяргею спатрэбілася знайсці не толькі ўласную экспрэсіўную колеравую форму, але і свае святочна-яскравыя метафары, нечаканыя абагульненні, фантасмагарычныя алегорыі...

І тым не менш, з’яўляючыся сынам свайго часу, надзеленым магутным тэмпераментам, ён паступова пераходзіць у іншую плашчыню фармальных пошукаў, смела вызваляючыся ад літаратурнасці і фігуратыўнасці жывапісу. Аднак гэтыя пошукі ляжалі ў межах мінулых мастакоўскіх адчуванняў, звязаных з сутнасцю славянскага паганскага свету. Праваслаўнае мастацтва, лічыць мастак, — гэта толькі невялікая, верхняя частка айсберга. Ніжняя ж, асноўная, — гэта свет паганства. Свет, надзелены разняволенай філасофіяй і здзіўляючымі “рэалістычнымі” казкамі, абстрактнымі катэгорыямі дабрыні і зла і канкрэтнай паэтыкай фальклору. Так, у апошнія гады Палякоў прыйшоў у новае мастацкае вымярэнне — бліжэй да непрадметнай, невыяўленчай сімволікі мастацтва XX стагоддзя.









Мае рацыю Вольга Хлебнікава, калі напісала, што, “пазбегнуўшы спакусы лёгкага поспеху, мастак пайшоў далей. Паступовы, часам пакутлівы адыход ад рэалізму, трохі прыкрытага мадэрнісцкай эстэтыкай, доўжыўся некалькі гадоў. У серыі твораў 1996 года “Прамежкі часу” быў дэклараваны канчатковы адыход ад рэалістычнай сістэмы формаўтварэння. У ёй пачалася распрацоўка ўласнай версіі экзістэнцыйнага перажывання колеру”.

Менавіта гэтая “версія” шырока прадстаўлена ў экспазіцыі, пачынаючы ад “Вечнага вандроўніка”, “Перадстаяння” і “Вогнезвароту” і сканчваючы “Крадамі”, “Сцылай і Харыбдай” і “Казанню” — бліскучымі эксперыментамі ў галіне новага “палякоўскага” жывапісу на “старыя” тэмы.

Цяжка сказаць, як будуць далей развівацца творчыя пошукі таленавітага мастака. Ілля Глазуноў, напрыклад, са шкадаваннем лічыць, што Сяргей адышоў ад рэалістычнага мастацтва. Сам жа мастак перакананы, што ён ідзе правільным шляхам, адкрываючы “сябе для сябе”. І, відавочна, ён мае рацыю...

**Барыс КРЭПАК**

*На здымках:*
*Сяргей Палякоў.*
*С.Палякоў. “Варажба”. П, а. 1992.*
*“Замова”. П., акр., а. 1996.*
*“Замова парадзіх”. П., а., а. 1994.*

# З МАЛЬБЕРТАМ ПА ЕЎРОПЕ

**Адбылося адкрыццё невядомай, яскравай старонкі ў творчасці заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Гоманава. У Доме дружбы з вялікім поспехам праходзіць ягоная выстава жывапісных твораў, якія ён больш за два дзесяткі гадоў прывозіў са сваіх шматлікіх паездак па замежных краінах. І не выпадкова выстава названа “Шляхамі дружбы. З мальбертам па Еўропе”.**

У прадстаўленых творах — імгненныя, жывыя ўражанні ад еўрапейскіх портаў, грэчаскіх гарадоў, сучасных вуліц Лондана, самабытных сцэнак з італьянскага жыцця. Манера пісьма — вольная, артыстычная, каляровая. Жывапісная пабудова палотнаў адрозніваецца ад усяго, што раней створана мастаком. Колер, ягоная дынаміка і пластыка, сюжэты, вольныя ад улады апавядальнасці, перакануча перадаюць каларыт не толькі далёкіх земляў, але і цікаўны характар самога Майстра. Так, мастак, чыя творчасць каранямі сягае ў традыцыю перадзвіжніцтва, прадстае ў нечаканым ракурсе. Мы ж ведаем яго па карцінах з жыцця беларускай вёскі, па партрэтах працаўнікоў. Створаныя пры ўдзеле Уладзіміра Гоманава вясковыя галерэі дасюль квітнеюць на Мазыршчыне. А творы з замежных паездак увесь час нібыта заставаліся ўбаку...

І вось упершыню яны сабраны разам — як свята, якое ён насіў заўсёды з сабою... А цяпер вось падарыў і нам.

**Ларыса САЛОДКІНА**

*На здымку:*
*У.Гоманаў. “Мулен-Руж”.*
*Палатно, алей.*






**У Палацы мастацтваў працягваецца выстава жывапісу Святаслава Федарэнкі, прысвечаная яго 50-годдзю.**

Святаслаў Федарэнка: “Сродкамі метафарычнасці і мантажу, усім вобразным ладам жывапісу я імкнуся перадаць хвалюючыя праблемы мінулага і сучаснасці. Мастак — гэта нерв зямлі, таму ён не можа заставацца абыякавым да ўсяго таго, што хвалюе народ, сучаснікаў, Айчыну з яе болем, трывогамі і надзеямі”.

*На здымку:*
*С.Федарэнка. Эцюд.*
*Палатно, алей.*

## МЫ І СВЕТ

# ДАКУМЕНТ ЭПОХІ

***Апошнім часам у свеце рэзка ўзрасла цікавасць да дакумента — прозы, дзённіка, мемуараў, дзе адлюстраваныя канкрэтныя факты, біяграфіі, імёны. Як ні дзіўна, у першую чаргу купляюць даведнікі, энцыклапедычныя слоўнікі (маецца на ўвазе, вядома, не ўжывальшчык маскультуры, а сур'ёзны чытач). І дакументальная аповесць “Мондзінская балада” Андрэя Чэмера, якую выдала Віленскае беларускае згуртаванне палітычных вязняў у самым канцы года — якраз у рэчышчы гэтага працэсу. Нездарма ж у прадмове да кнігі аўтар піша: “... надышла пара ўсе справы і рэчы называць сваімі імёнамі... Бо ў літаратуры (асабліва беларускай) і ў жыцці награмадзілася столькі прыдуманага і фальшывага, што народ перастаў яе чытаць і ўспрымаць”.***



***Можна было б паспрачацца з такім крыўдным для беларускай літаратуры вызначэннем, тым болей, што і апошнім часам з'яўляліся ў нас новыя значныя творы (назаву хаця б імёны В.Быкава, Г.Далідовіча, А.Кудраўца і г.д.), але аўтар мае права на ўласную думку, і яе ён выказаў.***

Андрэй Чэмер (Аляксей Анішчык) — постаць у беларускай публіцыстыцы і літаратуры досыць знаёмая. Нагадаю толькі ўрыўкі з дакументальнай аповесці “Навагрудская беларуская гімназія”, якія пазалетась друкавала “Культура”, а таксама яго вершы і публіцыстыку. Наш зямляк, доўгія гады ён жыве ў Літве, у Вільні, піша на беларускай, расейскай і польскай мовах, вельмі актыўны грамадскі дзеяч сярод “беларускіх літоўцаў” — нашых землякоў.

У “Мондзінскай баладзе” няма ніводнага прыдуманага прозвішча ці назвы. Сама маленькая вёсачка Мондзіна, адкуль з хваляй Сталыпінскай зямельнай рэформы ў самым пачатку стагоддзя пераходзілі на хутары сяляне, ужо не існуе, як не існуюць сотні гэткіх жа маленькіх вёсачак, бязлітасна ці то спустошаных вайною, ці то ўцёкамі яе насельнікаў у гарады, што было асабліва характэрна для апошніх дзесяцігоддзяў, ці то так званымі рэформамі па знішчэнні “неперспектыўных вёсак”.

Аднак аўтар малюнічаю сілай мастацтва ажывіў сялянскія сем'і, якія ўпарта цягнулі гаротную ношу жыцця праз усе нягоды, стараючыся вывесці сваіх дзяцей “у людзі”. Сімвалам пераемнасці пакаленняў паказаны ў паэме стары дуб, які стагоддзі прасціраў над ваколіцай свае магутныя галіны, але быў спілаваны ў час наступу на хутары і прымусовай калектывізацыі, калі ў чарговы раз для нашага народа быў абарваны спрадвечны ланцуг пераемнасці. І нездарма паэт піша:

*Эх!.. Ніхто не навучыў нас*
*Мінуўшчыну шанаваць!*
*Нават прадзедавы косці*
*Недагледжаны ляжаць.*

Аўтар даследуе гэты працэс. Маладая працавітая сям'я бацькоў (Ганна і Сцяпан) і іхнія родзічы пачынаюць новае жыццё на хутары. Свая зямля хаця і вымагае шмат сіл, аднак жа дае імпульс да працы, зацікаўленасці ў выніках. Нараджаюцца дзеці, і родны ўжо хутар робіцца для іх, па вядомым выказванні А.Адамовіча, “сялянскай Атлантыдай”, яны абжываюць сваю Атлантыду з усёй сілай дзіцячай фантазіі, кожны ўзгорачак, рэчка, крыніца вабяць і ўразаюцца ў душу.

Аднак віхор першай сусветнай вымятае старэйшага, Алеся, у Пецярбург, дзе ён, як і многія маладыя людзі, падхоплены рэвалюцыйнай рамантыкай знішчэння старога свету, абвешчанай бальшавікамі. Ацверазенне прыходзіць пасля.

Прымусовая калектывізацыя, другая сусветная вайна размялі, адну за адной, сем'і, якія сяліліся на хутарах з маладымі надзеямі, а канчалі свой век, знявечыўшыся ў шчаслівай долі. Аляксей Анішчык змяшчае ў сваёй кнізе шмат фотакартак родзічаў, і, углядаючыся ў прыгожыя, светлыя твары юных беларусаў і супастаўляючы ўражанне ад гэтага з фактамі іхніх біяграфій, з болем бачыш, што толькі адзінкі змаглі ўзняцца да асэнсавання сябе як творцы гісторыі і носьбіта нацыянальнай ідэі, бо бязлітасная каса войнаў і чужацкага нашэсця не пакідала для гэтага ні сіл, ні магчымасцей. Ганна і Сцяпан маглі даць адукацыю толькі двум сваім сынам, і лёс абодвух быў не самы шчаслівы. Хаця аўтар аповед пра сябе заканчвае на юначых гадах гімназіста, аднак жа мы ведаем, што беларуская ідэя каштавала яму колькі гадоў лагераў і пераследу. Але пра гэта ён не ўзгадвае. Бадай што найбольш уражвае ў аўтары нейкая юначая няўрымслівасць і ўзнёсласць, уменне трагізм сітуацыі прасветліць надзеяй. Прынамсі, самыя, бадай што, лірычныя старонкі кнігі прысвечаны вучобе ў Навагрудскай беларускай гімназіі, аднакласнікам, настаўнікам, многія з якіх сталі вядомымі дзеячамі беларускай культуры — напрыклад, Язэп Драздовіч, кампазітар Валынчык, Барыс Кіт.

(Вельмі шкада, дарэчы, што падрыхтаваная і здадзеная ў выдавецтва “Навука і тэхніка” кніга пра Беларускую Навагрудскую гімназію так і не пабачыла свет. Здаецца, што шмат яшчэ будзе напісана пра гэты своеасаблівы “Пушкінскі ліцэй” нашай Беларусі і яго ўплыў на нацыянальную культуру, і ў тым, што Аляксей Анішчык першы пачаў гэтую працу, — вялікая яго заслуга.)

Дзе, куды падзеўся, сапраўды, агромністы пласт нашай культуры — мілыя, прыгожыя дзяўчынкі і адухоўленыя хлопцы, што глядзяць на нас з гэтых цудам захаваных даваенных фотакартак? Аказваецца, што ураган, які іх знёс, усё ж пакінуў пасля сябе нейкія сляды, яны замецены навальнічным подыхам не да канца... У канцы кнігі, у “Паясненнях” аўтар, апавядаючы пра ваколіцы Навагрудчыны, дае кароткія тлумачэнні да геаграфічных назваў кнігі. У прыватнасці, ён узгадвае назвы дзвюх вёсак — сённяшнія “Клёны” і “Залесаўцы” называліся раней “Кабыльнікі” і “Плёхава” і, вядома, мелі сваю даўнюю гісторыю, якая “патрабуе архіўных даследаванняў”.

З цікавасцю чытаючы кнігу Аляксея Анішчыка, думаеш пра тое, што нам не хапае гэтай вось страснай, апантанай любові да Бацькаўшчыны, да кожнага яе куточка. Магчыма, яна абудзіць нейчае маладое сэрца, народзіць у ім жаданне злучыць перарваны ланцуг пакаленняў: аднавіць старую назву, адчыніць новы краязнаўчы музей, дзе застануцца імёны лепшых сыноў і дачок вёскі, краю, вобласці (нагадаю, што краязнаўчы музей у самім Навагрудку быў адчынены толькі тры гады таму, аднак ён ужо стаў цікавым асяродкам нацыянальнай культуры). І застаецца спадзявацца, што імя нашага земляка Андрэя Чэмера (Аляксея Анішчыка) зойме нарэшце ў гэтым музеі адпаведнае месца.

**Вольга ІПАТАВА**

На здымку: Аляксей Анішчык.

**Фота аўтара**

# КАБ ЖЫЦЦЁ ДОЎЖЫЛАСЯ БЯСКОНЦА...

***Гады незалежнасці Беларусі далі нам, апроч іншых магчымасцей, жаданне не толькі пабачыць іншыя краіны і гарады з іх культурай і нацыянальнымі асаблівасцямі, але і паказаць, на што здольныя мы самі, не прыбягаючы да дапамогі дзяржаўных структур.***

Нядаўна Леангіна Уласенка, народны майстар Беларусі, запрасіла аташэ па культуры нямецкага пасольства ў Беларусі Эрнста Шольца наведаць музей народнай архітэктуры і побыту, дзе экспануецца шмат работ народных майстрых, якія займаюцца вырабамі з саломы, і дзе захоўваюцца экспанаты з выставы “Экспа-92”, аўтарам якіх з'яўляецца Л.Уласенка. І ён ветліва прыняў гэтае запрашэнне, прыехаўшы разам з перакладчыкам пасольства Васілём Вішняковым пазнаёміцца з культурай народа, які паназапашваў не толькі, бадай, найцікавейшы ў Еўропе фальклорны пласт казак, паданняў, легенд, але і захаваў, часта на падсвядомым узроўні, глыбінную сувязь з Космасам. Пра гэта, паказваючы цудоўных “павукоў”, сплеценых Леангінай Уласенка, расказваў загадчык сектара “Цэнтральная Беларусь” музея, аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Антон Астаповіч.



Сустрэча працягвалася ў лабараторыі Мінскага хлебазавода № 1, дзе захоўваецца шмат вырабаў Л.Уласенка і яе дачкі Людмілы, таксама народнага майстра Беларусі. Сапраўды, хлеб і салома — яны абое ад коласа, які можна лічыць сімвалам нашай краіны — нездарма ж народны паэт Беларусі Кастусь Міцкевіч выбраў сабе такое імя — Колас. Начальнік лабараторыі Клаўдзія Багдановіч правяла гасцей па цэхах, паказала тэхналагічныя лініі, якія адпавядаюць сённяшнім сусветным стандартам. Пра гэта, дарэчы, сведчыла і міні-выстава ў лабараторыі, дзе мы ўбачылі многія любімыя мінчукамі гатункі хлеба, такія, як “Старажытны” з кменам і “Пляцёнку булачную” з макам. Як высветлілася, хлеб “Кменны” і “Старажытны”, выкарыстоўваючы даўнія рэцэпты, удасканальвалі і дапрацоўвалі менавіта тут, у лабараторыі, адсюль жа пайшлі ў свет казачнай прыгажосці караваі з кветкамі, якія можна заказаць у краме пры заводзе. Спадар Эрнст Шольц, як высветлілася, з'яўляецца пастаянным пакупніком прадукцыі гэтага хлебазавода, бо іхні фірмавы магазін знаходзіцца на плошчы Перамогі, недалёка ад пасольства. І беларускі хлеб падаецца яму вельмі смачным. Цяпер жа, убачыўшы, як супрацоўнічаюць работніцы лабараторыі з народнымі майстрыхамі, разам шукаючы прыгожае аздабленне сваёй прадукцыі, ён яшчэ больш высока ацаніў іхні талент і ўмельства, адзначыўшы, што такія сустрэчы спрыяюць лепшаму знаёмству з культурамі абедзвюх краін і наладжваюць масты народнай дыпламатыі.

... Мы ж, журналісты, яшчэ раз пераглядзеўшы міні-цуды з саломкі, якія робяць абедзве народныя майстрыхі, пераканаліся ў тым, што ва ўмелых руках любы матэрыял можа “выказаць” сябе, а ў сабе — святло і мудрасць Прыроды. Леангіна Уласенка працуе не толькі з саломай. Найбольш любіць яна прасці. “Калі я праду, выструньваю нітачку, — гэта для мяне такое ж задавальненне, як іншаму ў рэстаран схадзіць”, — прызналася яна. І, гледзячы на яе, уяўляеш вобраз міфалагічнай Праллі — той, якая бясконца прадзе нітку жыцця, падтрымліваючы яго, жыццё, каб доўжылася яно бясконца...

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**

*На здымку: Леангіна Уласенка з дачкой Людмілай.*

# АБ ЯНЕ ВІСЛІЦКІМ ЗАМОЎЦЕ СЛОВА...

***Мастакі ізноў наперадзе пісьменнікаў. Менавіта яны, мастакі, наладзілі выставу, прысвечаную 480-м угодкам выхаду ў свет паэмы Яна Вісліцкага “Пруская вайна”, нагадаўшы грамадскасці неабходнасць сталага ўключэння ў гісторыю беларускай культуры такога імені, як паэт-лацініст Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і Польшчы Ян Вісліцкі (1480 — 1520 гг.)***

“Культура” ў свой час змясціла вялікі артыкул Алега Лойкі пра гэтую постаць гуманіста-асветніка, які адным з першых усвядоміў велізарнае значэнне Грунвальдскай перамогі для лёсу славянства, узняў яе герояў — Вітаўта і Ягайлу, уславіў гераічнае мінулае нашага народа і народа Польшчы ў сумеснай барацьбе супраць Тэўтонскага ордэна. Але, калі не лічыць кнігі Я.Парэцкага, які першым на Беларусі стаў даследаваць творчасць Я.Вісліцкага, ды некалькіх артыкулаў, пра паэта-гуманіста XV — XVI стагоддзяў мала ведаюць нават літаратурныя колы. Гэтым, хутчэй за ўсё, і можна патлумачыць той факт, што на слаўную дату 480-годдзя адгукнуліся толькі мастакі. І, трэба сказаць, яны папрацавалі самаахвярна: у гасцёўні У.Галубка можна было бачыць творы М.Купавы, Я.Куліка, Р.Сітніцы, А.Марачкіна, А.Шатэрніка, іншых беларускіх мастакоў, якім шмат дапамог у арганізацыі выставы Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.




На адкрыцці выставы выступілі заслужаны артыст Беларусі В.Скорабагатаў, лаўрэат міжнароднага конкурсу Таццяна Цыбульская (музычнае суправаджэнне дыпламанта міжнародных конкурсаў Г.Каржанеўскай). Надзвычай цікава расказаў пра творчасць Я.Вісліцкага ў кантэксце сусветнай літаратуры гісторык І.Саверчанка, сваімі думкамі аб непарыўнасці гістарычных звёнаў культуры падзялілася пісьменніца В.Іпатава.

Думаецца, што даўно наспела неабходнасць як мага паўней прадставіць самабытную і цікавую постаць Я.Вісліцкага шырокай грамадскасці Беларусі.

**Наш кар.**

*На здымку: Я.Кулік. “Ян Вісліцкі”. Гравюра.*

# TV-ПРАГРАМА

## Серада, 5 лютага

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 «Музычная абойма».
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 «Захавальнік». Дак. фільм.
8.30 Вертыкаль.
9.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас. «Цвяток радзімы васілька...» Вершы Максіма Багдановіча.
9.25 «Мінулае яшчэ наперадзе». Дак. фільм.
9.55 «Слон і пеначка». Мультфільм.
10.05 «Пятля». Маст. фільм. 1-я серыя.
11.10 Камп'ютэрны палігон.
11.30 Роднае слова.
12.00 Відзьма-нявідзьма.
13.00 Навіны.
15.00 Навіны (з сурдаперакладам).
15.10 «Прыгоды Мурзілкі», «Мурзілка на спадарожніку». Мультфільмы.
15.50 «Меч і ружа». Дак. фільм.
16.00 Відэакурс французскай мовы. Ч. 2-я.
16.30 Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
17.00 Музычны антракт.
17.10 «І дух пакоры, цярплівасці, любві...» Дак. фільм.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны.
18.10 «Пятля». Маст. фільм. 2-я серыя.
19.15 Тэма дня.
19.30 «Музычная абойма».
19.35 Крэда.
19.55 «Прафесіі заўтрашняга дня». Перспектывы БДЭУ.
20.25 «Хто гэта?» Тэлегульня.
20.30 Аўта-парк.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Маст. фільм «Лафает». Частка 1-я.
23.05 Тэлевізійны Дом кіно.
23.35 Каралеўскае паляванне
0.15 Навіны.

### ГРТ

11.00, 14.00, 17.00, 22.35 Навіны.
11.10 М/фільм «Трывожны месяц верасень».
12.45 Мультфільмы.
13.15 Брэйн рынг.
14.20 «Альберт — пяты мушкецёр». Мультсерыял.
14.45 Кактус і К.
14.55 До-мі-соль.
15.10 Покліч джунгляў
15.40 «Карын і яе сабака».
16.10 ...Да шаснаццаці і старэйшым.
16.35 «Вакол свету».
17.15 «Дзяўчына па імені Лёс».
18.10 Гадзіна пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.05 «У пошуках страчанага». Таццяна Акунеўская. Вядучы — Г. Скараходаў.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Праграма перадач.
20.45 Клуб «Белы папугай».
21.40 Футбол. Суперкубак Еўропы. «Ювентус» (Італія) — "Пары Сен-Жэрмен» (Францыя).
23.40 Прэс-экспрэс.
0.00 Праграма перадач.

### Расія

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15, 8.20, 9.55, 10.15 Тавары — поштай.
7.25 «Клубнічка». Тэлесерыял.
7.55 «Дарагая рэдакцыя...»
8.30 «Гарадок». Забаўляльная праграма.
9.05 «Санта-Барбара».
10.25 Момант ісціны.
10.55—12.00 Чэмпіянат свету па біятлону. Мужчыны. 10 км. Камандная гонка.
13.25 «Бланш» Тэлесерыял. (Канада).
14.55 Аніматэка.
15.25 Экспавеснік.
15.30 Спосаб жыцця.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
17.40 «Клубнічка». Тэлесерыял.
18.10 Чалавек на Зямлі.
18.40 Асабліва важныя персоны.
19.35 «Гарадок». Забаўляльная праграма.
20.10 «Санта-Барбара».
21.05 Надвор'е.
21.10 «Добры вечар» з Ігарам Угольнікавым.
22.30—23.10 Хто мы?

### Санкт-Пецярбург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 «Гісторыя кахання». Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.30 Парады садаводам.
13.45 «Каўбоі, якія спяваюць». Мультфільм.
14.10 Асабістая справа.
14.40 «Чорны ліс». 2-я серыя.
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 «Калі Лота стала нябачнай». Тэлесерыял для дзяцей.
16.35 «Галандыя будуе Батавію». Тэлефільм.
16.50 Зебра.
17.30 Спявае Валянціна Панамарова.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.20 «Гісторыя кахання». Серыял.
20.15 «Пажывём — пабачым». Тэлесерыял.
21.00 «Чорны ліс». 2-я серыя.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30—23.15 «Тэлекампакт».

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
9.15 Ранак.
9.30 Жаночыя гісторыі. «Доктар Куін, жанчына-ўрач» (ЗША).
10.30, 17.30 «Вуліца Сезам».
11.00, 13.00, 15.00 Сёння днём.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 Вялікая «Часінка».
15.35 Дыстанцыя 60.
16.35 «Блакітнае дрэва». Маст. фільм.
18.00, 21.00 Сёння вечарам.
18.35 Герой дня.
19.00 Свет кіно. Маст. фільм «Ведзьмы».
20.40 Рускі альбом. Наталія Плаціцына.
21.40 Часінка.
22.00 Гадзіна серыяла. «Паліцыя Нью-Йорка» (ЗША). Заключная серыя.
23.00 Сёння ў поўнач.
23.20 Начная «Часінка».
24.00 Меламанія: «Шарль Азнавур».

## Чацвер, 6 лютага

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 Аўта-парк.
8.20 Беларускі мерыдыян. Сакрэты тканых дыванoў.
8.50 «Кулёк цераз галаву». Маст. фільм з субцітрамі.
10.05 Тэлебом. Шоу-конкурс.
10.45 «Пятля». Маст. фільм. 2-я серыя.
11.50 Каралеўскае паляванне.
12.30 Госці ў дом. Як адпачываюць у розных краінах свету.
13.00 Навіны.
15.00 Навіны (з сурдаперакладам).
15.10 «Ромка, Фомка і Артос». Мультфільмы 1—3-ці.
15.40 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. Песня, напісаная жыццём. Творчасць Максіма Танка.
16.10 Арсенал. Праграма для вайскоўцаў.
16.40 «Так гэта было...» Герой Савецкага Саюза лётчык Л. К. Шчукін.
17.00 Музычны антракт.
17.10 Урокі Наталлі Наважылавай.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны.
18.10 «Пятля». Маст. фільм. 3-я серыя.
19.15 Тэма дня.
19.30 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
19.35 Міжнародны кур'ер.
20.05 «Оскар». Тэлегульня.
20.30 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 «Тэлебарометр». Прагноз надвор'я.
22.00 Маст. фільм «Лафает» (Францыя). Частка 2-я.
23.15 «Крок». Праграма для моладзі.
23.45 Навіны.

### ГРТ

11.00, 14.00, 17.00, 22.55 Навіны.
11.10 Армен Джыгарханян у фільме «Цясніна пакінутых казак».
12.30 «Вясёлая карусель».
12.40 «Сярэбраны шар». Сучаснік на Брадвеі. Вядучы — В. Вульф.
13.20 Брэйн рынг.
14.20 «Альберт — пяты мушкецёр». Мультсерыял.
14.45 Неяк аднойчы.
14.55 «Вясёлая кампанія».
15.10 Цін-Тонік.
15.40 «Карын і яе сабака».
16.05 Рок-урок.
16.35 «Вакол свету».
17.15 Прэм'ера серыяла «Дзяўчына па імені Лёс».
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.35 Джэнтльмен-шоу.
19.00 Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я».
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Праграма перадач.
20.45 Шон Конеры ў прыгодніцкім фільме «Куба».
23.00 Прэс-экспрэс.

### Расія

7.00, 10.00. 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15, 8.20, 9.55, 10.15 Тавары — поштай.
7.25 «Клубнічка».
7.55 «Дарагая рэдакцыя...»
8.30 Сам сабе рэжысёр.
9.05 «Санта-Барбара».
10.25 Дзелавая Расія.
10.55—12.45 Чэмпіянат свету па біятлону. Жанчыны. 15 км.
13.25 «Бланш». Тэлесерыял (Канада).
14.55 На парозе стагоддзя.
15.25 Экспавеснік.
15.30 Ананімныя субяседнікі.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
17.40 «Клубнічка».
18.10 Момант ісціны.
18.40 Асабліва важныя персоны.
19.35 Сам сабе рэжысёр.
20.10 «Санта-Барбара».
21.05 Надвор'е.
21.10 «Добры вечар» з Ігарам Угольнікавым.
22.30 Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. ЦСКА—»Алімпіякас» (Грэцыя).
23.30—0.10 Адамаў яблык.

### Санкт-Пецярбург

15.05 «Гісторыя кахання». Серыял.
15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
16.05 «Чорны ліс». 3-я серыя.
17.00 «Студыя «Уяві», «Ад і да...»
17.30 Балетная група Андрэя Кузняцова прадстаўляе «Сапраўдную гісторыю Чырвонай Шапачкі».
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.25 «Гісторыя кахання». Серыял.
20.15 Асабістая справа.
20.45 Тэлеслужба бяспекі.
21.00 «Чорны ліс». 3-я серыя.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30—23.14 Дом кіно. Раман Вікцюк, Аляксандр Сакураў, Аляксей Пятрэнка, Тамасабура Бандо і іншыя.

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
9.15 Ранак.
9.30 Жаночыя гісторыі. «Доктар Куін, жанчына-ўрач» (ЗША).
10.30, 17.30 «Вуліца Сезам».
11.00, 13.00, 15.00 Сёння днём.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 Вялікая «Часінка».
15.35 «Дыстанцыя 60» +»Пстрычка».
16.35 «Блакітнае дрэва». Маст. фільм.
18.00, 21.00 Сёння вечарам.
18.35 Герой дня.
19.00 Міу-Міу ў фільме «Спёка» (Францыя).
20.45 Доктар Вугал.
21.40 Часінка.
22.00 Гадзіна серыяла. «Хуткая дапамога» (ЗША). 1-я серыя.
23.00 Сёння ў поўнач.
23.20 Начная «Часінка».
24.00 Кіно не для ўсіх. Маст. фільм «Дзіця Макона».

## Пятніца, 7 лютага

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 Прагноз надвор'я.
8.20 «Яшчэ не вечар...» Госць праграмы — сям'я музыкантаў Громавых.
8.35 «Хачу месяц», «Асляня», «Казка пра Старое рэха». Мультфільмы.
9.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. «Песня, напісаная жыццём». Творчасць Максіма Танка.
9.30 «Бархатны сезон». Музычна-забаўляльная праграма.
10.00 «Мульціклуб».
10.30 «Пятля». Маст. фільм. 3-я серыя.
11.40 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
12.30 Міжнародны кур'ер.
13.00 Навіны.
15.00 Навіны (з сурдаперакладам).
15.10 «Капрызка», «Травяная пастачка». Мультфільмы.
15.45 Відэакурс французскай мовы. Перадача 3-я.
16.15 ШАНС. Забаўляльна-пазнавальная праграма.
16.30 «Правінцыя». Івацэвіцкі раён.
17.00 Музычны антракт.
17.10 Кантрасты. Прававая праграма.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны.
18.10 «Пацалунак». Маст. фільм.
19.15 Тэма дня.
19.30 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
19.35 Наваколле. Экалогія Беларусі. «Прамая лінія».
20.20 «Фарбы зямлі роднай». Кінанарыс.
20.30 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Цім Робінс у маст. фільме «Лесвіца Джэйкаба» (ЗША).
23.50 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
0.20 Навіны.

### ГРТ

11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны.
11.15 Біятлон. Чэмпіянат свету. 20 км. Мужчыны.
13.30 Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян.
14.20 «Альберт — пяты мушкецёр». Мультсерыял.
14.45 «Апошняя ноч Шахеразады». Фільм-казка.
16.15 «Прыгоды коскі і кропкі». Мультфільм.
16.30 Магія: свет незвычайнага.
17.15 «Дзяўчына па імені Лёс». Серыял.
18.10 Надвор'е.
18.15 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 Усе фільмы Гайдая. «Дванаццаць крэслаў». 1-я серыя.
22.20 Погляд.
23.10 «Дванаццаць крэслаў». 2-я серыя.
0.30 Прэс-экспрэс.

### Расія

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15 Медыцынскі веснік.
7.25 «Клубнічка».
7.55 «Дарагая рэдакцыя...»
8.20, 9.55 Тавары — поштай.
8.30 L-клуб.
9.05 «Санта-Барбара».
13.25 «Бланш». Тэлесерыял.
14.15 Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
14.55 В. С. Бабічаў у праграме «Шостае пачуццё».
15.25 Экспавеснік.
15.30 Арэна для сенсацый.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
17.40 «Клубнічка».
18.10 Вертыкаль.
18.40 Асабліва важныя персоны.
19.35 L-клуб.
20.10 «Санта-Барбара».
21.05 Надвор'е.
21.10 «Добры вечар» з Ігарам Угольнікавым.
22.30 «Правасуддзе». Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 «Гісторыя кахання». Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.30 Парады садаводам.
13.45 «Жаро, Шаро і Мара». Мультфільм (Балгарыя).
14.10 Ток-шоу «Наўздагад». Мая Плісецкая.
14.40 «Чорны ліс». 4-я серыя.
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 «Парад кветак Галандыі». Тэлефільм.
16.25 «Ціхага голасу гукі любімыя...» Спявае Яўгенія Смальянінава.
16.55 ...Раўняецца каханне.
17.30 Шоу аб каханні.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.20 «Гісторыя кахання». Серыял.
20.15 «Без назвы». Гумарыстычная праграма.
21.00 «Чорны ліс». 4-я серыя.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 Раман з героем.
23.00 «Дарога ў рай». Маст. фільм.

### НТБ

5.00, 9.00 Сёння раніцай.
9.15 Ранак.
9.30 Жаночыя гісторыі. «Доктар Куін, жанчына-ўрач» (ЗША).
10.30 Праграма для дзяцей «Вуліца Сезам».
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 Вялікая «Часінка».
15.35 Дыстанцыя 60.
16.35 «Блакітнае дрэва». Маст. фільм.
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.35 Герой дня.
19.00 Рускі дэтэктыў. Марына Зудзіна ў фільме «Споведзь палюбоўніцы».
20.40 «Алё, Фіма!»
21.40 Часінка.
22.00 «Хуткая дапамога». Серыял. 2-я серыя.
23.00 Сёння ў поўнач.
23.20 Начная «Часінка».
23.40 Свет кіно. Стэфанія Сандрэлі ў фільме Цінта Браса «Ключ» (Італія)..

## Субота, 8 лютага

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Навіны.
8.10 «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
8.15 Рэгіён. Перадача з Гродна.
8.45 Здароўе. Нетрадыцыйная медыцына.
9.15 Урокі Наталлі Наважылавай.
9.45 Усё пра ўсё. Праграма для дзяцей.
10.10 Свет прыроды і захапленняў.
10.35 Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт.
11.05 Тэлеанонс.
11.10 Алімп: ад падножжа да вяршыні.
11.30 КВЗ. Фінал адкрытага чэмпіянату Беларусі. Разань—Віцебск.
12.25 «Вока». Пра рэкламу і не толькі...
12.45 Вас выклікае Спартландыя.
13.45 Тэлеанонс.
13.50 Калаж. Праграма для дзелавых людзей.
14.20 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
15.00 Навіны.
15.10 Чацвёртае вымярэнне. «Да запатрабавання».
15.35 «Музычная абойма». Вынікі тыдня.
15.50 Галерэя. Мастак-кераміст Аляксандр Зіменка. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай.
16.20 «У Новы год — з надзеяй і дабром». Частка 1-я (паўтор ад 31 снежня).
18.35 «Мілы, дарагі, каханы, адзіны». Маст. фільм.
19.45 «Банка коміксаў». Гумарыстычны фільм «Вясковы рэпартаж».
20.40 Калыханка.
21.00 Навіны.
21.50 Адрыяна Чэлентана ў маст. фільме «Вось мы якія» (Італія).
23.50 Відзьма-нявідзьма.
0.50 Цёмны пакой. Крымінальны вышук.

### ГРТ

6.55 «Апошняя цаля». Маст. фільм.
8.25 «Вялікае падарожжа Болека і Лёлека». Мультсерыял.
8.45 Дамашняя бібліятэка.
9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
9.15 Слова пастыра.
9.30 Не зявай!
10.00 Ранішняя пошта.
10.35 Смак.
10.55 Вяртанне Траццякоўкі.
11.20 «Інкогніта з Пецярбурга». Маст. фільм.
12.55 Бал алімпійцаў у Крамлі.
13.30 Відавочнае — неверагоднае.
14.20 Мультфільмы.
15.00 Біятлон. Чэмпіянат свету. 4х7,5 км. Эстафета. Жанчыны.
16.15 Леанід Якубовіч у тэлегульні «Кола гісторыі».
17.20 У свеце жывёл.
17.55 «Страшная гісторыя». Мультфільм.
18.05 Надвор'е.
18.10 «Залатая серыя». «Каўказская палонніца, ці Новыя прыгоды Шурыка».
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.50 Праграма перадач.
20.55 «Сёгун». Серыял.
21.55 «Каламбур».
22.25 Хакей з мячом. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
23.20 «Суседка». Маст. фільм.
1.15 Праграма перадач.

### Расія

7.00 «Прышэлец Ванюша», «Перавал». Мультфільмы.
8.15 Тэлечасопіс «Здароўе».
8.25 «Фрам — палярны мядзведзь». Дзіцячы серыял.
9.15 Клуб «Адрэналін».
9.30 Па вашых пісьмах.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.30 Парламенцкі тыдзень.
11.20 «Чырвоная кніга». Экалагічная экспедыцыя РТР.
11.35 Лепшыя гульні НБА.
12.30 Ананімныя субяседнікі.
13.00 Весткі пра...
13.20 Дыялогі пра жывёл.
13.50 «У хвіліну жыцця цяжкую...» Рамансы ў выкананні М. Шутавай.
14.00 Бясконцае падарожжа.
14.35 «Паэт у Расіі — больш, чым паэт».
15.05 «Цёмная» для М. Палтараніна.
15.20 «І звяжа тэлефон сэрцы...» Музычная праграма.
16.15 Суботні вечар Расійскага тэлебачання.
16.25 «Старая кватэра». Год 1949.
17.55 Суботні вечар з Пеле.
19.00 Весткі.
19.50 «Страляй на паражэнне». Маст. фільм (ЗША).
21.50 Надвор'е.
22.05 Зусім сакрэтна.
23.00 Рэпарцёр.
23.30 Праграма «А».

### Санкт-Пецярбург

9.10 «Гонар маю». Ваенны агляд.
9.40 «Нікчэмная». Маст. фільм (Грузія).
11.10 Ток-шоу «Наўздагад». Канстанцін Райкін.
11.35 «Маленькі хлопчык». Мультфільм (Балгарыя).
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
12.10 Залаты фонд. Тэлевізійны тэатр пра Пушкіна.
14.10 Яшчэ адна Расія.
14.45 Тэатральная правінцыя?..
15.10 Гістарычныя расследаванні.
16.05 Чэмпіянат Расіі па міні-футболу.
16.30 Гульня «бінга».
17.30 «Аб'яўлены вышук». Тэлеспектакль. Частка 1-я.
18.40 Вялікі фестываль.
19.25 «Любімы раджа». Маст. фільм (Індыя). 1-я серыя.
20.40 «Воўчая старасць», «Вочы чорныя». Мультфільмы для дарослых.
20.55 Свецкая хроніка.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 «Парад парадаў» прадстаўляе Алёну Апіну.
22.25 «Любімы раджа». Маст. фільм (Індыя). 2-я серыя.

### НТБ

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Мультсерыял.
9.30 Тэлегульня «Зразумей мяне».
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. «Тарзан». Маст. фільм (ЗША). 9-я серыя.
10.45 Мультфільм.
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Хакей. Кубак Глабена. Зборная Швейцарыі — зборная Расіі.
14.30 «Панарама» з Усеваладам Аўчыннікавым.
16.00 «Зорны пыл». Дабрачынны аўкцыён музычнага канала НТБ-плюс.
16.30 «Чалавек-павук». Мультсерыял.
17.00 Час «Ч» з Вольгай Кучкінай.
17.30 «Крымінальная Расія: сучасныя хронікі». Дак. серыял.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.30 «Справы смешныя, справы сямейныя». Камедыйны серыял.
19.00 «Мільён гадоў да нашай эры». Маст. фільм (Вялікабрытанія).
20.45 Лялькі.
21.45 «Байкі са склепа». Прэм'ера серыяла. 1-я і 2-я серыі.
22.35 Рускі альбом. Дзмітрый Малікаў.
23.00 Суботняе шоу Мікалая Фаменкі «Імперыя страсці».
23.35 Трэцяе вока.
0.05 Начны канал. «Плейбой-шоу».

## Нядзеля, 9 лютага

### Беларускае тэлебачанне

8.00 «Спорт і адкрыцці».
8.20 «Лістападнічак», «Папяровая казка», «Несцерка». Мультфільмы.
9.05 «Тэлебом».
9.45 «Уся справа ў капелюшы».
10.20 «Усё нармальна, мама!»
10.50 Тураб'ектыў.
11.10 «Востраў натхнення».
11.25 «Студыя «Акно». «Наконадні будучыні», «Тэлек-шоу».
11.50 Творцы. Мастак Генрых Бржазоўскі.
12.10 Галасы мінуўшчыны. Вакальныя мініяцюры Міхала Клеафаса Агінскага.
12.45 Вяршыня свету. Тэлевіктарына.
13.15 Тэлевізійны АРТ-клуб. Народная артыстка Беларусі Лілія Давідовіч.
13.45 «Вайна ў паветры». Дак. серыял.
14.10 Вяскоўцы. Прымае ўдзел намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі І. П. Шакола.
14.40 Гісторыя кахання. Жанна і Васіль Ясюкі.
15.00 Навіны.
15.10 Канцэртны сезон. Дзяржаўны ансамбль «Песняры».
15.55 Госці ў дом. Мост.
16.25 «У Новы год — з надзеяй і дабром». Частка 2-я (паўтор).
19.10 Абібок.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Навіны-ТБ.
21.30 Ток-шоу «Карамболь» з удзелам актрысы Алены Якаўлевай.
22.10 «Пікнік ля Вісячай Скалы». Маст. фільм (Аўстралія).
0.05 «Бархатны сезон». Музычна-забаўляльная праграма.

### ГРТ

7.00 «Васёк Трубачоў і яго таварышы». Маст. фільм.
8.20 Мультфільмы.
9.00, 14.00, 17.00, 22.30 Навіны.
9.15 «Бесталковыя нататкі» Дзм. Крылова.
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Служу Расіі!
11.30 Грай, гармонік любы!
11.55 Правінцыяльныя гісторыі.
12.20 Аднойчы.
12.35 «Падводная адысея каманды Кусто». Серыял.
13.25 Смехапанарама.
14.20 «Запрашэнне да музыкі».
15.00 Клуб падарожнікаў.
15.45 Мультфеерверк.
16.30 Шчаслівы выпадак.
17.20 Адзін на адзін.
17.45 Надвор'е.
17.50 КВЗ-97.
19.50 Кінаафіша.
20.00 Час.
20.30 Праграма перадач.
20.40 «Сёгун». Серыял.
21.35 Хакей з мячом.
22.40 Футбольны агляд.
23.10 «Брыльянцін». Камедыя.
1.00 Праграма перадач.

### Расія

7.00 «Рыкі-Цікі-Таві», «Выпадак з бегемотам». Мультфільмы.
7.55 «Фрам — палярны мядзведзь». Дзіцячы серыял.
8.45 Латарэйныя навіны.
9.00 Прысяга.
9.30 Добрай раніцы, краіна!
10.10 Прыз групы «Сава».
10.15 Рускае лата.
10.55 Кніжная лаўка.
11.25 Чалавек на Зямлі.
11.55 Чэмпіянат свету па біятлону. Мужчыны. Эстафета 4х7,5 км.
13.00 Весткі.
13.20 Чэмпіянат свету па біятлону (працяг).
13.50 Спяваюць драматычныя артысты.
14.20 21 кабінет.
14.50 Пілігрым.
15.20 Сад культуры.
15.45 Нічога, акрамя...
16.00 «Аладзін».
16.55 Увесь свет.
17.40 Тэлескоп.
18.20 Караоке па-руску.
19.00 Люстэрка.
20.00 Рэпартаж ні аб чым.
20.15 Надвор'е на заўтра.
20.20 Гісторыі кахання. «Цёмныя алеі».
21.55 Праграма Івана Дыхавічнага «Хітрасць 22».
22.50 «Ва ўсіх на вуснах». Праграма Наталлі Дар'ялавай.
23.05 У Ксюшы.
23.35 Рэк-тайм.

### Санкт-Пецярбург

8.40 Гаючае слова.
9.10 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
9.40 Авертайм.
10.10 «Паляўнічыя». Дак. серыял (ЗША). 2-я серыя.
11.00 «Старое танга». Балетмайстар Д. Бранцаў.
11.25 Залаты пелікан.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Зваротны адлік.
12.10 Да 160-годдзя з дня дуэлі. Тэлефільм-прысвячэнне памяці А. С. Пушкіна.
12.20 «Апошняя дарога». Маст. фільм (Расія).
14.10 Яшчэ адна Расія.
15.10 Анегін і Ленскі ў грыме і без.
16.10 Оперная сенсацыя. Алег Рабец.
16.35 «Залаты ключ», «Кідайка».
17.30 «Аб'яўлены вышук». Тэлеспектакль. Частка 2-я.
18.40 Скарбы Пецярбурга. «Ханс і Сафі Арп».
19.20 Спартыўная праграма.
20.55 Ва ўсіх на вачах.
21.10 Ноу смокінг.
21.55 Міжнародны агляд.
22.30 «Уяўленне шабашу». Маст. фільм (Расія).

### НТБ

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Вуснамі дзіцяці.
9.30 Тэлегульня «Зразумей мяне».
10.00 «Тарзан». Маст. фільм. 10-я серыя.
10.45 Мультфільм.
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Кніжны магазін.
12.30 «Імперская Венера». Маст. фільм (Італія—Францыя).
14.30 Тэлегульня «Свая гульня».
16.00 «Ноч кароткая». Маст. фільм.
17.30 Перадача «Рускія цвікі».
18.00 Сёння ўвечары.
18.30 «Справы смешныя, справы сямейныя». Серыял.
19.00 «Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя». Серыял (ЗША).
20.00 Вынікі.
21.10 «Супермэн». Маст. фільм.
23.45 Магазін на канапе.
0.15 Начны канал. Эратычныя шоу свету.

## ПАСЛЯ БАЛЮ



# ПЕРСПЕКТЫВЫ БЕЛАРУСКАЙ РОК-РЭВАЛЮЦЫІ

***У XX стагоддзі адбылося шмат рэвалюцый, гэта і сацыяльна-палітычныя, і навукова-тэхнічныя, і інфармацыйныя, і нават сексуальныя. Але зараз гаворка пойдзе яшчэ пра адну рэвалюцыю, якая літаральна за некалькі дзесяткаў гадоў змяніла аблічча ўсяго чалавецтва — гэта музычная рэвалюцыя (лепей удакладніць — рок-н-рольная рэвалюцыя). Паспрабуйце сёння ўявіць зямны свет без рытмічных "заліхвацкіх" мелодый. Яны гучаць з радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, у парках, скверах, рэстаранах, барах. Ёсць людзі, якія жыць не могуць без гэтай музыкі — іх вушныя перапонкі не стрываюць і некалькі хвілін, каб не патрымкаць у такт нейкага хіта, таму і "прырастаюць" да іх галоў навушнікі.***

***Хвалі музычнай рэвалюцыі дакатваліся і да нашай краіны. Але ў часы Савецкага Саюза іх штучна і наіўна стрымлівалі ідэалагічнымі дамбамі. Лепей сказаць — грэблямі, якія нічога не маглі стрымаць і рухнулі самымі першымі пры адной згадцы пра галоснасць.***

***Цяпер можна ўпэўнена сцвярджаць, што мы маем сваю ўласную плынь той рэвалюцыі, а пацверджаннем гэтага можна лічыць цырымонію "Рок-каранацыі", якая праводзіцца ўжо трэці раз запар.***

* * *

Фестываль "Рок-каранацыя" задуманы дзеля вызначэння і ўзнагароды найбольш яскравых музыкантаў і калектываў, што граюць рок-н-рол і зрабілі за год нешта выбітнае ў гэтым кірунку. Першыя два фестывалі, праведзеныя па выніках 1994 і 1995 гадоў у памяшканні Альтэрнатыўнага тэатра, заваявалі немалую папулярнасць у музыкантаў і слухачоў і, апроч таго, мелі шырокі рэзананс у сродках масавай інфармацыі. Выбар удзельнікаў фестывалю ажыццяўляецца на аснове анкетавання музыкальных крытыкаў, журналістаў, людзей, якія маюць непасрэднае дачыненне да шоу-бізнесу.

* * *

Сёлета рок-н-рольнае свята праходзіла ў кінатэатры "Кастрычнік". Ніводны фільм за апошнія тры-чатыры гады не змог бы пахваліцца такой колькасцю гледачоў, хаця цэны на квіточак даволі пакусваліся. Увогуле рок-публіка вельмі адрозніваецца ад кіно-, тэатра-, цырка-публікі, яна, безумоўна, больш вясёлая і ніколі не спяшаецца заняць сваё месца ў перапоўненай зале, бо для яе больш кайф паскакаць у праходах. Так было і на гэты раз: калі заходзіш у знаёмую залу "Кастрычніка", то адразу адчуваеш, што трапляеш у... радасны мурашнік навыварат. Настрой імгненна падымаецца, як ціск гіпертоніка.

Карацей, народ рок любіць і шануе.

Бяда іншая — патэнцыял таго народа малаваты. У асноўным энергія беларускай рок-рэвалюцыі выдаткуецца дарэмна. У нашай краіне пакуль не створана моцнай інфраструктуры, якая б абслугоўвала наш інтэлектуальны рок-н-рольны прадукт, няма інфармацыйнай прасторы, дзе б ён асвятляўся. Тыя ж радыё "ВА", у большасці сваёй Белдзяржрадыё дый Беларускае тэлебачанне з "Аксамітным..." (даруйце за беларускую мову) "Бархатным сезонам", дый і з класнай перадачай "Відзьма-нявідзьма",— сядзяць на акскепках замежнай музыкальшчыны. Адных "Акалады" і, невядома калі будзе адноўленым, "Радыё 101,2" — вельмі мала, каб раскруціць махавік абароту сродкаў на вытворчасць уласных рок-хітоў і атрыманне з гэтага пэўнага прыбытку.

А гэта не толькі кайф, прыкол, але і эканоміка дзяржавы, ды і свой рынак ідэй. Нашыя суседзі — Расія, Літва, Украіна, Польшча даўно ідуць шляхам падтрымкі сваёй рок-індустрыі. Я сам асабіста бачыў вялікія натоўпы пакупнікоў у варшаўскіх супер-маркетах, якія віравалі каля кошаў з аўдыёкасетамі. Але там не было сусветна вядомых рок-гуртоў — там былі польскія калектывы.

Безумоўна, цікавасць да таго, што якаснага напісана, вынайдзена, зроблена на роднай зямлі, маецца ў большай ці меншай ступені ў кожнага грамадзяніна сваёй краіны, і беларусы тут не выключэнне. Праўда, каб гэтая цікавасць сталася стымулам для падтрымкі творчасці, трэба мець матэрыяльнае і арганізацыйнае афармленне: гэта і тэледыскатэкі, накшталт "Партыйнай Зоны" на ТБ-6, і рок-клубы, дзе маглі б граць і гранды, і музыкі-пачаткоўцы. Пакуль што гэта ў нас існуе ў зародкавым стане. Таму кожны больш выбітны рок-гурт "песціць думку" з'ехаць ці на захад, ці на ўсход, дзе ўсё гэта ўжо ёсць і працуе.

Мусіць, можна было ганарыцца мінскай камандзе "Ляпис Трубецкой", якая, як паведаміў вядучы "Рок-каранацыі" Анатоль Вечар, зацікавіла і "Радыё Рокс", і Арцёма Троіцкага. Так, музыкі займелі шанц прабіцца там, дзе шмат грошай і славы, але робіцца крыўдна, што добрыя магчымасці для працы ёсць дзесьці там.

* * *

А вось што кажа адзін з аранжыроўшчыкаў шоу-гурта "Палац" Зміцер Вайцюшкевіч пра перспектывы рок-музыкі на Беларусі, дый уласна "Палаца".

— Я думаю, будзе цяжэй, і таму з'яўляюцца перспектывы, так бы мовіць, падпольнага характару, усё залежыць ад палітычнага і эканамічнага стану нашай дзяржавы, якая "ад зямлі адарвалася, а да неба не прыстала", а для рока гэта вельмі важна. Аднак трэцяя "Рок-каранацыя" паказвае, што не ўсё гэтак дрэнна і нешта можа атрымацца тут на Беларусі, ды і тыя каманды, якія паедуць на Расію, і тыя, што будуць працаваць на захадзе, ужо будуць прадстаўляць культуру Беларусі і працаваць на яе. Існуе меркаванне, што калі культура прыціскаецца, яна больш квітнее. З аднаго боку, я адчуваю гэта на сабе — хочацца больш сказаць менавіта пра тое, што ты адчуваеш, але з другога боку, па сродках і сродкі выяўлення...

А на захад "Палац" не з'язджае. Гэта будуць звычайныя туры, не толькі канцэртныя. Мы гурт, які ўключае лабараторыю па вывучэнні фальклорнага матэрыялу, ёсць пэўны вопыт правядзення лекцый у заходніх універсітэтах, ды яшчэ здымаем дакументальны фільм пра тое, што робім. Так што для нас гэта таксама цікавая праца, якая адкрывае невядомыя перспектывы.

* * *

Вострую неабходнасць пэўнай арганізацыі рок-шоу-мастацтва Беларусі разумеюць прадзюсеры фестывалю "Рок-каранацыя" Юрый Цыбін (рэкламна-выдавецкая фірма "Каўчэг") і Генадзь Шульман (ТАА "Клас-клуб). На гэты раз для падтрымкі фестывалю імі была задзейнічана даволі ўнушальная колькасць арганізацый і прадпрыемстваў, сярод якіх: Дзяржкамітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнае аб'яднанне "Белканцэрт", Рэспубліканская асацыяцыя маладзёжных прадпрыемстваў і арганізацый "Рампо", ТАА "Дайнова", Арэнднае прадпрыемства па вытворчасці піва і безалкагольных напояў "Крыніца" (г.Мінск), тэлепраграмы "Абібок" і "Акалада", Беларускае радыё-2, радыё "ВА", штотыднёвік "Автогазета", фірма "Мецца Фортэ", тэлекампанія "Свой круг" і міжнародны музычны рух "Hollywood Rock".

Так што "Рок-каранацыя-96" прайшла на ўзроўні. Можа быць, хацелася, каб узнагароды нашым выбітным музыкам былі каштоўныя і неабходныя для іх, напрыклад, які-небудзь супер-супер-новы інструмент. Спадзяемся, што гэта будзе наперадзе. А пакуль, як падарунак прыгажосці для музыкаў і для публікі была дэманстрацыя авангарднай моды, якую прадставілі манекеншчыцы агенцтва мадэлей "Тамара".

Аднак самай важнай узнагародай для музыкаў, публікі дый увогуле для Беларусі стала афіцыйная заява арганізатараў, што наступная "Рок-каранацыя-97" будзе праводзіцца па прынцыпе расійскага конкурсу "Песня года".

Пачынаючы з сакавіка 1997 года ў кінатэатры "Аўрора" будуць адбывацца абанементныя канцэрты з удзелам як маладых, так і ўжо вядомых рок-н-рольных калектываў Рэспублікі Беларусь, на якіх і будуць адбірацца лепшыя для ўдзелу ў заключным канцэрце "Рок-каранацыя-97". А гэта значыць, што нарэшце на Беларусі ствараецца тая неабходная, бесперапынна дзейная рок-інфраструктура. Цяпер будзе стымул для працы і падвышэння свайго майстэрства для кожнага рок-музыканта, для кожнага, хто марыць паспрабаваць свае сілы ў рок-музыцы, для вынаходжання і паказу новых арыгінальных напрацовак, для слухача, які цікавіцца мясцовымі здабыткамі гэтага жанру, для журналістаў, якія асвятляюць рок-падзеі, і нават проста для людзей, бо гэта інфраструктура павінна даць і новыя працоўныя месцы.

* * *

А вынікі сёлетняй "Рок-каранацыі" наступныя:

— дэбют года — гурт "Stokes";

— лепшы магнітаальбом года — "Ранетое сердце" "Ляписа Трубецкого"...

За лепшую песню года змагаліся ажна тры гурты: N.R.M. — з песняй "Беларускія партызаны", "Ляпис Трубецкой" з супер хітом "Ау" і Аляксей А. Шэдзько з дзівоснай лірычнай песняй "Маруся".

Падчас дэцыбельнага вызначэння — "якая кампазіцыя нарабіла больш шуму" — адбыўся маленькі цуд. Супер-хіт "Ляписа" "Ау" прайграў патрыятычна настроеным "Беларускім партызанам" N.R.M. цэлых два дэцыбела, нарobленых звязкамі і пляскамі слухачоў.

Лепшымі тэкстамі года былі прызнаны тэксты таго ж "Ляписа Трубецкого" і гурта "Новае Неба". Але як прызналася лідэрка "Новага Неба" Кася Камоцкая — што датычыць яе гурта, то наконт тэкстаў — вялізная заслуга належыць мінскаму паэту Міхалу Аніпадзіставу.

Прыз "Традыцыя і сучаснасць", які прысуджаецца фірмай "Дайнова", ужо ў трэці раз быў уручаны "Палацу". Хаця сёлета канкурэнцыю "Палацу" стварыў не меней цікавы гурт "Камэлот".

А лепшай групай года, як можна было здагадацца па колькасці ўзгадак сярод намінантаў, стаў гурт "Ляпис Трубецкой".

Трошкі шкада, што не было, як летась, намінацый "Рок-княжна", "Шоумен" і "За вернасць жанру".

Як спецзапрошаныя госці ў канцэрце бралі ўдзел вядомыя рок-гурты: "Крама", "Нейра Дзюбель", "Rouble Zone", "Brothers in Blues".

Як кажуць, усё было добра, без эксцэсаў і даволі аб'ектыўна. Няхай гэтак і прадоўжыцца ў кінатэатры "Аўрора".

**Серж МІНСКЕВІЧ**

*На здымках: Сяргея Міхалка, саліста "Ляписа Трубецкого", каранує леташні Рок-кароль Алег "Джагер" Мінакоў; уладальнікі "Рок-кароны-94" — гурт "Крама".*

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Алесь ЧАЙКА
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 04.02.97. у 12.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3250
Замова 187
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.